


КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР,
БЕЛСЕЛЬБАНКУ І УСЕКАБАНКУ


СЬНЕЖАНЬ

№ 17-18

1929

МЕНСК

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# КААПЭРАЦЫЯ Б. С. С. Р.

**ДВУХТЫДНЕВЫ ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНЫХ ЦЭНТРАЎ БССР, БЕЛСЕЛЬБАНКУ і ЎСЕКАБАНКУ**

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
**АЛ. КРАСОЎСКАГА, МАТУСЭВІЧА, ТУМАСА, Г. ХАСКІНА і А. ФРЫДА**

**ПЕРШЫ ГОД ВЫДАНЬНЯ**

## № 17-18

**СЬНЕЖАНЬ**






МЕНСК — 1929

## ЗЬМЕСТ



Галоўлітбел № 710 Заказ № 941—1200 экз. Друк. „Палесдрук“, Гомель

С. К.—кі

# За ўдзел каапэрацыі ў калектывізацыі вёскі

Калгаснае будаўніцтва з кожным днём прымае ўсё большы і большы тэмп. Цэлыя вёскі, сельсаветы і раёны зьліваюцца ў буйныя калектывы. Што ні дзень сотні і тысячы сялян прыходзяць да канчатковага самаразуменьня, да канчатковага выніку, што калектыўная форма гаспадаркі зьяўляецца аднэй з найвышэйшых, аднэй з карысьнейшых і рэнтабельнейшых форм нашае сучаснасьці. Мы маем на Беларусі ўжо такія калгасы, якія ахапляюць плошчу ў 30 тыс. гэктараў (Клімаўшчына). У некаторых акругах Беларусі ёсьць рэальныя магчымасьці да восені 1931 году правесьці калектывізацыю на 100 проц.

Гэта ўсё сьведчыць аб тым, што ўсякія кулацкія агітацыі супроць калектыву біты, што праваўхілісцкія ідэі сьціраюцца бядняцка-серадняцкай масай сялянства. Але-ж разам з гэтым клясавая барацьба на вёсцы ня спынена, яна прымае толькі іншыя формы, іншыя мэтады. Калі раней кулак вёў бязупынную агітацыю супроць калектывізацыі пад лёзунгам „ня ідзеце ў калгас“, дык зараз, бачачы, што гэты лёзунг ня мае ніякай жыцьцёвасьці, кулак прымае другую тактыку і выкідае новы лёзунг: „ідзеце ў калгас без маёмасьці“. Як вынік гэтай кулацкай агітацыі, у вёсцы можна наглядаць ня зусім нармальныя зьявы. Частка бядняцка-серадняцкай масы сялянства падупадае пад гэты ўплыў і перш, чым уваходзіць у калектыў, збывае да мінімуму сваю маёмасьць, лічачы, што ў калектыў можна ўваходзіць хоць з чым. Гэту шкодную думку для калгаснага будаўніцтва перш за ўсё праводзіць, бязумоўна, кулак. Ён першы разбазарвае сваю гаспадарку, першы прадае жывёлу, кажучы сялянам: „усёроўна прападзе, прадавайце і вы, а то забяруць у калгас“. І нельга сказаць, што гэта кулацкая агітацыя ня робіць ніякага ўплыву на сялянства. Досыць паглядзець на нашы апошнія рынкі, і мы ўбачым, што ўсе яны завалены жывёлаю, што некаторыя вёскі палову свае жывёлы выводзяць на рынак збыту. Мы ў апошні час нават ужо маем такія вёскі, дзе на 50 проц. паменшылася жывёлы.

У зьвязку з такім ненармальным зьявішчам, у зьвязку з такой кулацкай-антыкалгаснай агітацыяй, ЦК КП(б)Б даў месцам і савецкім арганізацыям катэгарычныя дырэктывы аб правядзеньні вялікай асьветна-тлумачальнай працы сярод бядняцка-серадняцкай масы сялянства за барацьбу супроць разбазарваньня, зьнішчэньня жывёлы і за застаўленьне яе ў нашых калектыўных арганізацыях.

Але весткі, якія паступаюць з раёнаў і акруг, гавораць аб тым, што гэта праца разгортваецца яшчэ не ў дастатковай меры, што на гэты бок працы ня ўсюды зьвернена максымум увагі.

Зараз, калі мы ўступілі ў новы этап калгаснага будаўніцтва, калі пераважаючая большасьць сялянства захоплена ідэяй ісьці ў калгасы, розным мясцовым арганізацыям, асабліва сельсаветам, на гэты бок працы трэба зьвярнуць агромную ўвагу.

Апошні лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) адносна ўдзелу сельсаветаў у калгасным будаўніцтве пастанавіў наступнае:

„У сувязі з калгасным рухам, які бурна разгортваецца, і з тэй задачай, якая стаіць перад рабочай клясай ды сялянскімі масамі па ўзьняцьці гэтага руху на больш высокую ступень, пленум ЦК перасьцерагае супроць недаацэнкі цяжкасьці калгаснага будаўніцтва і асабліва супроць фармальна-бюракратычнага падыходу да яго і да ацэнкі яго вынікаў.

Пленум ЦК лічыць найважнейшай задачай саветаў, асабліва на вёсцы, як мага большае ўзмацненьне ўвагі да справы калектывізацыі. Увага саветаў павінна быць накірована на найбольш поўнае і першачарговае абслугоўваньне насельніцтва калгасаў, на ператварэньне іх базы ўздыму да сацыялістычнай перабудовы сельска-гаспадарчай вытворчасьці ў базы агрыкультурных, сацыяльна-бытавых і культурных мерапрыемстваў саветаў. Трэба ўзмацніць кіраўнічую ролю саветаў у адносінах да калектываў, павялічыць адказнасьць саветаў за калгаснае будаўніцтва, завесьці як сыстэму справаздачнасьць калгасаў перад саветамі, не дапушчаючы, аднак, драбязьлівай апекі і адміністрацыйнага ўмешваньня ў кіраўніцтва калектывамі.

Разам з вялікім удзелам у калгасным будаўніцтве сельсаветаў, бязумоўна, вялікую ролю павінны адыграць і рознага роду каапэрацыйныя арганізацыі. Яны павінны, па-першае, зьвярнуць вялікую ўвагу на загатоўку рознага гатунку збожжа-насеньня, а гэтаксама—на загатоўку жывёлы, дапамагаючы з усёй адданасьцю нашым калектывам і саўгасам у гэтай справе. Па-другое, каапэрацыйныя арганізацыі, якія штодзённа зьвязаны з селянінам-пайшчыкам, павінны весьці няўпынную культурна-асьветную растлумачальную працу сярод сялянства, супроць розных кулацкіх агітацый, супроць разбазарваньня сялянамі свае маёмасьці, накіроўваючы бядняцка-серадняцкую масу ў рэчышча калектывізацыі“.

Таксама усім арганізацыям вёскі, у тым ліку і каапэрацыі, неабходна весьці рашучую барацьбу з ілжэкалгасамі, якія часам зьяўляюцца маскай для кулацкіх элемэнтаў вёскі, што яскрава адзначае лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б):

„Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы асабліваe значэньне набывае пасьлядоўнае правядзеньне мерапрыемстваў па барацьбе з ілжэкалгасамі, якія зьяўляюцца сродкам маскаваньня і зброяй кулацкіх элемэнтаў вёскі“.

---

С. Кудзінаў

# Вясеньняя пасеўкампанія і калгасы БССР

### Галоўнейшыя задачы

У наступным 1929-30 годзе вясеньняя пасеўная кампанія на Беларусі праходзіць пры нябывалых тэмпах калектывізацыі. Вось чаму на гэту кампанію неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу самых шырокіх працоўных мас Беларусі. Вясеньняя пасеўкампанія высоўвае перад намі шэраг такіх галоўнейшых задач, як арганізацыя новых і ўзбуйненьне і ўзмацненьне існуючых калгасаў, падвышэньне на 25 проц. ураджайнасьці збожжавых культур (у параўнаньні з 1928 годам), пашырэньне пасеўплошчы ў калгасах на 5 проц., пашырэньне пасеваў тэхнічных культур і траў, забесьпячэньне калгасаў сродкамі вытворчасьці і пашырэньне сярод калгасаў кантрактацыі, асабліва доўгатэрміновай.

Вясеньняя пасеўкампанія ў калгасах павінна стаць грамадзкай кампаніяй з прыцягненьнем савецкіх, каапэрацыйных і іншых арганізацый, а асабліва шырокіх мас калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага вясковага актыву. Пляны вясеньняй пасеўкампаніі павінны быць прасунуты да кожнага калгасу. Толькі тады, калі кожны калгас будзе добра ведаць усе мерапрыемствы, якія яму неабходна ажыцьцёвіць, мы атрымаем належныя станоўчыя вынікі.

## Рост калгаснага будаўніцтва

За апошні год калгасны рух набыў вялізарнейшыя разьмеры. Асабліва шпарка ён разгортваецца ў апошнія часы; так, напрыклад, колькасьць калгасаў павялічылася з 1713 на плошчы 336.720 га на 1-Х—1929 г. да 1989 калгасаў на плошчы 955.929 га на 1-XII—1929 г. Гэта дае ўпэўнесьць у тым, што тэмп калгаснага будаўніцтва ў час вясеньняй пасеўкампаніі будзе яшчэ больш шпаркім. На 1-VI—1930 г. мяркуецца плошчу пад калгасамі давесьці да 1.408.000 га (16 проц. ад усяе плошчы БССР). Пры арганізацыі новых калгасаў мяркуецца арганізоўваць галоўным чынам буйныя калгасы. Усяго будзе ўдзельнічаць у час вясеньняй пасеўкампаніі 1.050.000 га пасеўнай абагуленай плошчы калгасаў (12 проц. ад агульнай у БССР). З вясны-ж мяркуецца прыступіць да арганізацыі шэрагу вузкаспэцыялізаваных буйных калгасаў, у тым ліку 25 сьвінаводных, 100 бульбяна-жывёлаводных, 15 садовых, 10 малочна-гародных і 5 ільняных. Толькі шляхам стварэньня буйных спэцыялізаваных калгасаў мы зможам дабіцца павялічэньня таварнасьці сельскае гаспадаркі і падвышэньня вытворчасьці працы калгасаў.

## Пашырэньне пасеўнай плошчы калгасаў

Пасеўплошча яравых культур у калгасах у 1930 годзе падвысіцца да 613.950 га замест 36.605 га ў мінулым годзе. Такое вялікае пашырэньне пасеўплошчы яравога кліну будзе таму, што большасьць нанова арганізуемых калгасаў у час зімы пры масавай калектывізацыі ўжо будуць мець абагуленыя пасевы, не чакаючы земляўпарадкаваньня. Апрача таго, пахаць будзе больш поўна скарыстана за конт памяншэньня папару і разворкі новых зямель, пры чым пасеўплошча кожнага калгасу павінна даць павялічэньне ня менш, як на 6 проц. супроць мінулага году. Асаблівая ўвага будзе зьвернена на павялічэньне пасеву тэхнічных культур з давядзеньнем апошніх да 15-20 проц. агульнае пасеўплошчы ў ільнаводных раёнах. Таксама будуць значна пашыраны пасеўплошчы траў і кораньплодаў. У першы раз будуць уведзены пасевы кукурузы і сланечніку выключна на мэты сіласаваньня з тым, каб у кожным калгасе была сіласная ўстаноўка (башня альбо яма). Значная ўвага зьвяртаецца на пашырэньне пасеву лубіну на зялёнае ўгнаеньне.

## Падвышэньне ўраджайнасьці ў калгасах

Перад калгасамі стаіць вялікая задача—падвысіць ураджайнасьць збожжавых культур на 25 проц. у параўнаньні з сярэднім ураджаем за апошнія 4 гады. Галоўнейшымі ўмовамі падвышэньня ўраджайнасьці зьяўляецца ўжываньне мінэральных угнаеньняў (супэрфасфат, калійная соль, сульфат амоні), а таксама вапнаваньне падзолістых глеб, палепшаньне тэхнікі апрацоўкі глеб, няўхільнае выкананьне аграмінімуму (сартыроўка і ачыстка насеньня, ужываньне гатункавага насеньня, радавы пасеў, увядзеньне шматпалёвых севазваротаў, барацьба са шкоднікамі і г. д.).

Неабходна ўзяць самы рашучы курс на ўкараненьне ў калгасах чыста-гатунковага насеньня, якім калгасы зусім мала забясьпечаны. Трэба памятаць, што бяз чыста-гатунковага насеньня мы не падвысім ураджайнасьці нашых палёў. У наступную пасеўкампанію для калгасаў Беларусі патрабуецца гатунковага насеньня на 6.500.000 рублёў.

## Забясьпечым калгасы сродкамі вытворчасьці

На тэхніку апрацоўкі глебы трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу таму, што ад яе палепшаньня значна залежыць падвышэньне ўраджайнасьці. Толькі пры належнай апрацоўцы глебы такія мерапрыемствы, як ужываньне мінэральных угнаеньняў, вапнаваньне, тарпаваньне, лубінізацыя і іншыя культурныя мерапрыемствы дадуць належныя вынікі. Неабходна забясьпечыць калгасы Беларусі больш складанымі і больш дасканалымі ў тэхнічным стасунку машынамі і прыладамі. У першую чаргу трэба мэханізаваць нашы буйныя калгасы. У наступную пасеўкампанію калгасам патрабуецца с.-г. машын і прыладаў на суму звыш $3^1/_2$ мільёнаў рублёў. Трактаразабесьпячэньне калгасаў у гэтым годзе зусім нездавальняючае. Калгасы Беларусі атрымаюць толькі 192 трактары. Усе трактары будуць накіроўвацца ў раёны суцэльнай калектывізацыі і ў буйныя калгасы. Дзеля ўтварэньня належнага рамонту с.-г. інвэнтару ў калгасах у час вясеньняй пасеўкампаніі будзе арганізавана 20 мантажна-сьлясарна-кузьнечных майстэрняў і 8 дробных мэханічных майстэрняў. Цягавай сілай амаль усе калгасы забясьпечаны. Закупка коняй будзе ўтварацца выключна для чырвонаармейскіх і яўрэйскіх калгасаў, якія ня маюць сваіх коняй. Усяго мяркуецца закупіць 660 коняй на суму 132.000 р. Мінэральных угнаеньняў калгасам патрабуецца 178.561 тона. Мінэральнымі ўгнаеньнямі мяркуецца ў першую чаргу забясьпечыць такія культуры, як тэхнічныя (лён, каноплі), бульбу і караньплоды. Мінэральнымі ўгнаеньнямі будзе ўгноена 43,0 проц. усяе пахаці калгасаў пры ўмове атрыманьня вызначанае па пляну колькасьці ўгнаеньня. Каля 6 проц. пахаці трэба ўгнаіць лубінам на зялёнае ўгнаеньне і каля 10 проц.—гноем. Толькі пры гэтакіх умовах магчыма забясьпечыць павялічэньне ўраджайнасьці калгасаў на 25 проц. у параўнаньні з 1928 годам. Вясной мяркуецца завапнаваць 30.000 га калгаснай плошчы. Для гэтай мэты патрабуецца 90.000 тон вапны. Затарпаваць трэба па пляну 4.000 га і залажыць па калгасах 2150 тарпяных кампосных куч. Апроч таго, мяркуецца сабраць 2.200 тон попелу.

## Калгасы павінны выканаць аграмінімум

Калгасы, зьяўляючыся перадавой часткай вёскі, павінны поўнасьцю выканаць у час вясеньняй пасеўкампаніі закон аграмінімуму. У першую чаргу яны павінны на ўсе 100 проц. ачысьціць і адсартаваць насеньне як збожжавых, так і тэхнічных культур. Каб поўнасьцю зрабіць зернаачыстку 16.000 тон збожжавых і 3.500 тон тэхнічных культур, калгасы павінны прыступіць да зернаачысткі загадзя, скарыстаўшы ўвесь зімовы час. Астатняе насеньне будзе выдавацца ў ачышчаным выглядзе. Радавы пасеў садзейнічае эканоміі пасеўматар'ялу і падвышэньню ўраджайнасьці, таму калгасы павінны поўнасьцю скарыстаць усе сеялкі, якія ёсьць ў наліччы, так і тыя, што будуць набыты да пачатку пасеву.

Усяго мяркуецца засеяць радавым пасевам 54200 га яравых культур (каля 25 проц. усяго пасеву). На працягу 1930 г. будзе земляўпарадкавана звыш 850.000 га зямельнай плошчы, ахопленай калектывізацыяй. На шматпольле павінна быць пераведзена 535.000 га, у тым ліку 260.000 га у час вясеньняй пасеўкампаніі.

Шкоднікі, паяўляючыся ў масавай колькасьці, значна памяншаюць ураджай як палявых культур, так і ўраджай садоў і гародаў, таму адным з асноўных мерапрыемстваў у наступную пасеўкампанію зьяўляецца барацьба са шкоднікамі. У мэтах падвышэньня ўраджайнасьці яравых хлябоў, неабходна калгасам поўнасьцю зрабіць пратручваньне аўсу, ячменю і пшаніцы ў колькасьці 21619 тон. Паколькі ў наступным годзе па Гомельскай, Магілеўскай і Бабруйскай акругах чакаецца масавае паяўленьне шкодніка паляводзтва—лугавога матылька, неабходна, каб у гэтых акругах калгасам паказаць прыклад культурна-гаспадарчых мер барацьбы з гэтым шкоднікам, шляхам узорваньня і матыжэньня заражаных плошчаў, зьнішчэньня сьмецьцевых траў і інш. У наступную пасеўкампанію неабходна поўнасьцю абслужыць усю садова-гародную плошчу калгасаў у колькасьці 4109 га садоў і 3500 га гародаў. Для барацьбы са шкоднікам калгасам патрабуецца 475 тон розных сродкаў барацьбы (фармалін, вапна, парыская зелень, купаросы і інш.) на суму 56200 руб.

## Садоўніцтва і гародніцтва ў калгасах

Калі ў мінулым годзе ў калгасах было 4109 га садовай плошчы, дык у наступным годзе мяркуецца давесьці яе да 7609 га (звыш 2 проц. усяе плошчы калгасаў). Будзе заложана новых садоў на плошчы 3500 га, пры чым яны будуць закладвацца ў буйных калгасах вялікімі масывамі па 100 га. У вясеньнюю пасеўкампанію будзе адбывацца толькі падрыхтоўчая праца (падрыхтоўка глебы і г. д.), а закладка садоў мяркуецца восеньню 1930 г. Усяго на гэтыя мерапрыемствы патрабуецца 595000 руб. У наступную-ж пасеўкампанію мяркуецца залажыць па буйных калгасах Беларусі 1000 га прамысловых гародаў па 100 га ў кожным. Усяго пад гародамі ў калгасах будзе 8200 га. На закладку гэтых гародаў патрабуецца 300000 руб.

## Палепшаньне кармовай базы калгасаў

Ва ўмовах Беларусі кожная калектыўная гаспадарка незалежна ад яе галоўнага напрамку павінна быць разам з тым і жывёлаводчай. Але недахоп кармоў зьяўляецца значным тормазам для разьвіцьця прадукцыйнага жывёлаводзтва і нават затрымлівае яго рост. Загэтым мяркуецца ў наступную вясеньнюю пасеўкампанію правесьці шэраг мерапрыемстваў па максымальнаму павялічэньню кармовых запасаў ў калгасах. З гэтых мерапрыемстваў галоўнымі зьяўляюцца культура балот пры мэліарацыйных работах, палепшаньне сенажацяў, шляхам расчысткі і раскарчоўкі, а таксама баранаваньне; пашырэньне палявога травасеяньня, пашырэньне пасеву караньплодаў спэцыяльных культур на сілас і пабудова сіласных башань і ям. На працягу вясны калгасам згодна пляну будзе зроблена павярхоўнае палепшаньне балот на 6000 га і каранных палепшаньняў на 2300 га. Палявое травасеяньне калгасаў будзе праводзіцца на плошчы 49400 га (віка, канюшына, сэрадэля). Бульбы і караньплодаў будзе пасеяна 49300 га, а таксама сланечніку і кукурузы на сілас 1600 га. Сіласных башань і ям мяркуецца пабудаваць у калгасах 1713.

## Кантрактацыя ў калгасах

Кантрактацыя мае мэтай забесьпячэньне нашай прамысловасьці неабходнай сыравінай. Кантрактацыя зьяўляецца аднэй з лепшых дзелавых форм сувязі паміж нашай прамысловасьцю і сацыялістычнай часткай вёскі—калгасамі. Калгасы павінны поўнасьцю кантрактаваць таварную частку прадукцыі сваёй гаспадаркі. У наступную вясеньнюю пасеўкампанію

калгасамі будзе закантрактавана звыш 70000 га розных яравых культур, тэхнічных, збожжавых траў, караньплодаў і бульбы. Пры кантрактацыі яравых калгасы атрымаюць звыш 1750000 рублёў авансу, якія сродкі пойдуць на далейшае палепшаньне і ўзмацненьне гаспадарак гэтых калгасаў. У далейшым трэба браць курс на ўжываньне выключна доўгатэрміновай кантрактацыі.

## Мерапрыемствы па жывёлаводзтву

Разам з пашырэньнем кармавой базы калгасы павінны павялічыць свае гурты як за кошт уласных сродкаў, так і крэдытаў. Крэдыты на закупку жывёлы будуць накіроўвацца галоўным чынам у буйныя калектыўныя малочныя фэрмы і буйныя жывёлаводныя калгасы. Неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу на вырасьліваньне ўсяго маладняка ў калгасах пры максымальным скарачэньні выбракоўкі старых кароў. У мэтах пашырэньня і палепшаньня сьвінаводзтва ў калгасах, мяркуецца па калгасах Беларусі пабудаваць 100 племрассаднікаў і 100 бэконных множнікаў, з якіх 25 буйных з колькасьцю звыш 100 матак у кожным. Таксама прымаюцца меры да арганізацыі ў калгасах і розных злучных пунктаў з такім разьлікам, каб ня было ніводнага калгасу без патрэбнай колькасьці для іх жывёлы вытворцаў быкоў, кныроў а ў больш буйных калгасах—і жарабкоў. У Бабруйскай, Магілеўскай і Віцебскай акругах мяркуецца арганізаваць па 1 буйнай прамысловай калектыўнай птушкаводнай гаспадарцы па вытвару яек. У кожнай гаспадарцы будзе ня менш 3000 галоў птушкі. Апрача таго, па-ўсіх акругах будуць у 35 калгасах арганізаваны племянныя птушнікі.

## Агрыкультурная праца калгасаў

Вялікае разгортваньне калгаснага руху паказвае, што калгасы маюць значны ўплыў на бядняцка-серадняцкія масы вёскі. Гэтую сувязь з бядняцка-серадняцкімі масамі і ўплыў на іх з боку калгасаў трэба і ў далейшым ўзмацняць і пашыраць. Калгасы павінны так паставіць сваю гаспадарку, каб яна ў сапраўднасьці паказала усе перавагі буйнага калектыўнага земляробства над дробнай індывідуальнай гаспадаркай. Агрыкультурная праца калгасаў павінна пайсьці па лініі шырокага правядзеньня калгасамі сярод бядняцка-серадняцкага насельніцтва такіх мерапрыемстваў, як трактарная воранка, зернаачыстка, абмен простага насеньня на гатунковае, абслугоўваньне сялянскай жывёлы вытворцамі калгасаў, забесьпячэньне насельніцтва чыста ўроднымі і палепшанымі парасятамі і г. д. з такім разьлікам, каб максымальна ўцягваць бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ў калгасны рух.

## Сацыялістычные спаборніцтва.

Сацыялістычнае спаборніцтва павінна стаць сталым мэтадам падвышэньня вытворчасьці працы калгасьнікаў, палепшаньня калектыўных гаспадарак. Да канца 1928-29 г. у спаборніцтва было ўцягнута каля 50 проц. усяе старой сеткі калгасаў БССР.

Трэба, каб у наступную вясеньнюю пасеўкампанію ў спаборніцтва былі ўцягнуты ўсе без выключэньня калгасы Беларусі.

Асновай спаборніцтва паміж калгасамі павінны стаць канкрэтныя практычныя задачы, якія будуць садзейнічаць узмацненьню калектыўных гаспадарак і наогул—калгаснага будаўніцтва.

**М. Калгасны**

# Ад Сталыпінскіх хутароў да суцэльнае калектывізацыі

*(Посьпехі калгаснага руху па БССР)*

## Асаблівасьці калгаснага руху Беларусі

Калгасны рух у БССР пачаўся значна пазьней (на 2-3 гады), чым у іншых раёнах Савецкага Саюзу. Нямецкая і польская акупацыі і працяглы бела-бандытызм у працягу доўгага часу затрымлівалі як нармальнае разьвіцьцё народнае гаспадаркі краіны наогул, так і разьвіцьцё калектывізацыі. Вось чаму на 1/X-1924 г. па БССР налічвалася толькі 378 калгасаў.

Значнай асаблівасьцю калгаснага будаўніцтва БССР зьяўляецца тое, што яно ішло і ідзе амаль выключна ў напрамку стварэньня вышэйшых, найбольш складаных форм калектывізацыі—сельгас. арцеляў і камун. Гэта тлумачыцца інтэнсыўным характарам сельскае гаспадаркі Беларусі. У той час, калі ў экстэнсыўных збожжавых раёнах Савецкага Саюзу да апошняга часу калектывізацыя ішла галоўным чынам у напрамку стварэньня прасьцейшых форм калектыўнага земляробства таварыстваў па супольнай апрацоўцы глебы (на сваіх працоўных землях), пры чым галоўным фактарам калектывізацыі зьяўляўся трактар, трактарная калёна, машына-трактарная станцыя, што рабіла ўплыў на буйнасьць зямельных плошчаў гэтых галгасаў , на Беларусі справа была зусім іншая. Тут да 1928-29 г. ствараюцца калгасы больш складаных форм, дробныя па тэрыторыі і галоўным чынам на землях ДЗМ. Сельская гаспадарка Беларусі мае яўна выражаны жывёлаводчы напрамак, і абагуленьне аднаго толькі паляводзтва не дае неабходнага гаспадарчага эфэкту. Абагуленьне ідзе ў напрамку і паляводзтва і жывёлаводзтва, у сувязі з чым арганізуюцца галоўным чынам сель.-гас арцелі.

Калі на Украіне, на паўночным Каўказе і г. д. прасьцейшыя формы калгасаў складаюць да 80 проц. агульнае іх колькасьці, на Беларусіназіраецца зусім адваротны малюнак. Гэта відаць з наступнага (па зьвестках ЦСУ БССР).

| Гады | Віды калгасаў | | | | Таварыств. САГ | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Камуны кольк. | % % | Арц. кольк. | % % | Коль-касьць | % % | Коль-касьць | % % |
| На 1/V-28 г. | 63 | 0,35 | 467 | 76.4 | 81 | 13.25 | 611 | 100 |
| На 1/VI-29 г. | 90 | 8,9 | 832 | 82,1 | 91 | 9,0 | 1013 | 100 |
| Прырост проц. за год | 49,9 | — | 78,2 | — | 12,4 | — | 65,8 | 100 |

Такім чынам, дамінуючай формай ў асноўнай масе калгасаў (як у колькасных, так і ў проц. адносінах) зьўляецца сель.-гас. арцель. Аднак, гэта ў фармальных адносінах—па статутных формах, фактычна-ж амаль усе калгасы Беларусі—уяўляюць з сябе вышэйшую форму калектывізацыі—сельск.-гас. камун. Гэты вельмі цікавы вынік даведзен матар'яламі ЦСУ БССР па дасьледваньню калгасаў у 1928 годзе. У выніку групоўкі статутных форм калгасаў па ступені калектывізацыі пасеваў, высьветлілася, што пераважная большасьць арцеляў па ступені калектывізацыі зьяўляюцца камунамі і яшчэ большая частка таварыстваў па САГ па ступені абагуленьня адпавядаюць арцелям, а 6 таварыстваў—нават камунам.

## Скрыўленьне зямельнае палітыкі БССР (у мінулым)

Да 1928 г. арганізацыя калгасаў вытваралася амаль выключна на землях ДЗМ (на 1/XI-28 г.—80,6 проц.). Гэтая эпоха ў калгасным будаўніцтве Беларусі характарызуецца затрымкай у росьце калгасаў, частковым іх распадам, а таксама арганізацыяй дробных калгасаў за лік разьвярстаньня былых абшарніцкіх зямель на хутары і пасёлкі. Заставаліся толькі сядзібы з будынкамі і садамі, дзе і арганізоўваліся калгасы-карлікі (ад 20 да 60 га—21,9 проц., ад 60 да 100 га—22,9 проц., ад 100 да 220 га—33,5 проц. і г. д.). Адгэтуль—немагчымасьць прымяняць складаныя машыны. У калгасах БССР зараз толькі 58 трактараў.

Усё гэта наогул адпавядала існаваўшай ў той час зямельнай палітыцы НКЗ БССР, якая праводзілася так, каб будаваць моцныя кулацкія гаспадаркі і садзейнічаць іх росту.

Па „знаменитому“ Наркамземаўскаму 5-ці гадоваму пляну разьвіцьця сельскае гаспадаркі БССР „саўгасы і калгасы не набываюць на бліжэйшы пэрыод часу асаблівага значэньня, як фактар непасрэднае абагуленае сельскае гаспадаркі“. Затое ёсьць усе падставы для росквіту хутарскае гаспадаркі, рост якой па БССР намячаецца „плянам“ на 25 проц.

Натуральна, што гэты „плян“ адзначае, што „няма пэрспэктыў на распаўсюджаньне ў бліжэйшыя гады сярод сялянскіх гаспадарак трактараў“. Так на практыцы зямельных органаў Беларусі ажыцьцявілася права-апартуністычная палітыка ў разьвіцьці сельскае гаспадаркі, якая падмацоўвалася зямельным кодэксам БССР. НКЗ праводзіліся мерапрыемствы, якія садзейнічалі „мірнаму ўрастаньню кулака ў сацыялізм“ у той час, калі партыя праводзіла і праводзіць рашучую барацьбу з капіталістычнымі элемэнтамі вёскі, барацьбу за вышэйшыя формы калектыўнага земляробства.

У выніку—штучная затрымка разьвіцьця калгаснага руху і цэлы шэраг балючых зьявішчаў унутры самых калгасаў, агульная іх арганізацыйна-гаспадарчая слабасьць і значная засьмечанасьць калгасаў кулацка-нэпманскім сацыяльна чужым і варожым элемэнтам, арганізацыя шэрагу „дутых“ калгасаў з былых людзей (абшарнікаў і г. д.) і нават манашак з захаваньнем усяго іх манастырскага ўкладу.

Бяз сумненьня, на існуючыя здаровыя калгасы навальвалася ўся ярасьць кулацкай праслойкі вёсак, навокал іх і ўнутры іх разгортвалася жорсткая клясавая барацьба.

## Бурныя тэмпы калектывізацыі БССР

Права апартуністычная палітыка ў мінулым НКЗ Беларусі была рашуча асуджана партыяй, а кіруючая верхавіна была зьнята з працы. Усе законы, якія не адпавядаюць палітыцы партыі, заменены новымі. Распрацован новы праэкт зямельнага кодэксу, які базуецца на саюзным законе у асноўных прынцыпах землякарыстаньня і земляўпарадкаваньня. Гэты кодэкс ад пачатку і да канца будзе забясьпечваць пасілены рух шырокіх мас бядняцка-серадняцкага сялянства да рэарганізацы свае дробнай гаспадаркі ў буйную сацыялістычную гаспадарку А што гэты рух пасьля ліквідацыі „прышчэпаўшчыны“ прыняў новыя тэмпы новыя формы, відаць з наступнага:

| Г а д ы | Колькасьць калгасаў | Агульная зямельная плошча | Сярэдняя плошча 1 калгасу | % % ад усяе с.-г. плошчы БССР |
|---|---|---|---|---|
| На 1/X-27-28 г. | 994 | 94500 | 95,2 | 1,07 |
| „ 1/X-28-29 г. | 1600 | 265000 | 165,6 | 3,00 |
| „ 1/XII-29 г. | 1989 | 955920 | 480,0 | 16,80 |

Бурныя тэмпы калектывізацыі, прыняўшыя масавыя формы, характарызуюцца ня толькі колькаснымі, але і якаснымі дасягненьямі. Замест 20 гэктарных „ліліпутаў“ разгарнулася будаўніцтва буйнейшых калгасаў-волатаў, якія могуць існаваць толькі ва ўмовах самай высокай машыннай тэхнікі.

Зараз па БССР налічваецца 176 буйных калгасаў з агульнай плошчай зямлі звыш 400.000 га. Сярод іх ёсьць такія волаты, як „Камунар Магілеўшчыны“—калгас у рамках сельсавету—і рад іншых, разьмерам у 5-10-15-25000 га.

Адначасова з стварэньнем буйных калгасаў ствараецца стыхійнае ўзбуйненьне старых калгасаў. Так, напрыклад, Дняпроўская камуна і калгас Дружба Заходзкая (Гомельскае акругі) узрасьлі з 200—300 га гаспадарак у буйныя гаспадаркі 1000—2000 га кожная, праз далучэньне да іх мяжуючых паселішчаў і пасёлкаў.

У апошні час у БССР выявіліся буйныя раёны калгаснай суцэльшчыны. На падставе пастановы дырэктыўных і ўрадавых органаў БССР зараз на Беларусі вылучаны 31 раён суцэльнае калектывізацыі, у тым ліку ўся Магілеўская акруга цалкам (16 раёнаў). У гэтых раёнах ужо на сёньня пад калгасамі знаходзіцца ад 30 да 95 проц. усяе зямельнае плошчы раёну. Жыцьцё абганяе ўсякія плянавыя меркаваньні і, ня гледзячы на тое, што 5-ці гадовы плян калектывізацыі сельскае гаспадаркі некалькі разоў перабудоўваўся з тым, каб не адстаць ад існуючых тэмпаў, усё-ж суцэльная калектывізацыя сельскае гаспадаркі БССР будзе выканана ў пэрыод ушчыльнёнай 5-ці годкі г. зн.,—у бліжэйшыя 2 гады.

(канец у наступным нумары).

---

**А. Дубіна**

# Задачы вытворчай калгаснай каапэрацыі

Адным з важнейшых пытаньняў сацыялістычнай перабудовы вёскі зьяўляецца ў сучасны момант пытаньне аб узаемаадносінах і ўзаемадзеяньні спэцыяльных галін сельска-гаспадарчай каапэрацыі і калгаснай сыстэмы. Неабходнасьць выразнага і яскравага арганізацыйнага яго вырашэньня адчуваецца ўсімі працаўнікамі с.-г. каапэрацыі і калгасьнікамі.

Да гэтага часу ў практычнай працы ўсё яшчэ наглядаецца калі ня простае супроцьстаўленьне каапэрацыі калгаснаму руху і наадварот, дык адстойваньне самастойнасьці і прывычкі працаваць па старому, захапляючыся часам лішкавым гандлем, зьяўляецца некаторым нават супроцьстаўленьнем калгаснаму будаўніцтву.

Асноўным фактам, які вызначае формы гаспадарчага будаўніцтва, зьяўляецца ўзровень разьвіцьця вытворчых сіл усяе народнай гаспадаркі. Таму характэрным для сучаснага пэрыоду зьяўляецца бурны рост сацыялістычнай прамысловасьці і асабліва яе часткі, якая вырабляе сродкі вытворчасьці, што падвядзе ў бліжэйшыя гады пад разьвіцьцё сельскай гаспадаркі такую моцную сацыялістычную базу, дзе пытаньне ў галіне сельска-гаспадарчай вытворчасьці будзе, бязумоўна, вырашана ў бок ажыцьцяўленьня сацыялізму. Бурны рост сацыялістычнай прамысловасьці адзначае моцнае рэвалюцыйнае ўзьдзеяньне на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі, ён дазваляе рабочай клясе непасрэдна заняцца перабудовай сельскай гаспадаркі на новых сацыялістычных пачатках. Каапэрацыя была і цяпер застаецца найбольш „простым, лёгкім і даступным“ для дробнага селяніна сродкам, каб удзельнічаць у гэтай працы пабудаваньня сацыялізму.

Але гэта не адзначае, што формы каапэраваньня, формы каапэрацыйнай працы працягваюць увесь час, пры ўсялякім узроўні разьвіцьця вытворчых сіл, заставацца старымі. Некалькі гадоў таму назад гандлёвая форма каапэрацыйнай працы, г. зн. каапэраваньне сялянства на грунце тавараабароту адпавядала таму становішчу вытворчых сіл у нашай краіне і таму пэрыоду, які атрымаў у нас назву „адбудоўчага пэрыоду“.

Сучасны пэрыод сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі з нябачанымі посьпехамі ва ўсіх галінах сацыялістычнага будаўніцтва ўтварае новыя формы саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства. Сацыялістычная прамысловасьць накіроўвае моцны струмень сродкаў вытворчасьці ў сельскую гаспадарку, і рабочая кляса пры дапамозе гэтых сродкаў вытворчасьці зьяўляецца непасрэдным арганізатарам сельскай гаспадаркі на сацыялістычных пачатках. Пад уплывам гэтага на вёсцы ўзьнікае бурны, стыхійны працэс каапэраваньня на вытворчай падставе бядняцка-серадняцкага сялянства. Каапэрацыя пачынае разьвівацца ў новых больш высокіх формах свае працы. Калгасны рух хутка папярэджвае самыя сьмелыя меркаваньні, ператвараецца ў масавы бядняцка-серадняцкі рух, які разьвіваецца па лініі будаўніцтва буйнай калектыўнай гаспадаркі. На месцы старой каапэрацыі ўзьнікае новая, вытворчая, і найбольш яскравы выгляд яе—калгасная каапэрацыя. Асаблівасьць сёньняшняй стадыі нашага будаўніцтва заключаецца ў тым, што калгасная форма каапэрацыі, г. зн. вышэйшая яе форма, становіцца ўжо лёгкім, простым і даступным сродкам дзеля пабудовы сацыялізму, і таму пры вырашэньні практычных пытаньняў сацыялістычнай перабудовы вёскі неабходна выходзіць з таго, што с.-г. каапэрацыя ў сучасны момант ператвараецца ў вытворчую калгасную сацыялістычную каапэрацыю. Адным з такіх практычных пытаньняў і зьяўляецца задача правільнага пабудаваньня ўзаемаадносін паміж спэцыяльнымі галінамі с.-г. каапэрацыі і калгаснай сыстэмы.

У гэтых новых умовах праца спэцыяльных галін с.-г. каапэрацыі ні ў якім разе ня звужваецца, а, наадварот, становіцца значна шырэй. Ніхто не адымае ад с.-г. каапэрацыі збытавых функцый, ніхто не забараняе ёй каапэраваць бядняцка-серадняцкія гаспадаркі на грунце тавараабароту. Наадварот, і тое і другое ў большай, чым калі-небудзь, ступені ўскладаецца імення на спэцыяльныя галіны с.-г. каапэрацыі, зьмяняецца толькі мэтад гэтай працы. Той новы ўзровень разьвіцьця вытворчых сіл, які мы маем зараз у нашай краіне, высунуў новую больш высокую форму арганізацыі тавараабароту паміж горадам і вёскай, форму, якая ня толькі падпарадкоўвае рынычную стыхію плянаваму дзяржаўнаму рэгуляваньню, але і выціскае яе шляхам усё больш і больш шырокай арганізацыі сацыялістычнага абмену прадукту паміж горадам і вёскай.

Гэтая новая форма, як кантрактацыя, не выключае, а ўзмацняе ролю с.-г. каапэрацыі ў галіне арганізацыі збыту. Аднак яна зьяўляецца і новай у тым сэнсе, што робіць кантрактацыю функцыяй калгаснай сацыялістычнай каапэрацыі, стымулюючы ўвогуле калгаснае будаўніцтва. Кантрактацыя і ёсьць той новы мэтад працы вытворчай калгаснай каапэрацыі, які павінен стаць асноўным у дзейнасьці спэцыяльных галін с.-г. каапэрацыі. Спэцыяльныя галіны с.-г. каапэрацыі маюць магчымасьць на грунце кантрактацыі, шырачэйшым чынам, яшчэ ў нябывалых разьмерах, разгарнуць збыта-снабжэнчаскую працу, але зусім відавочна, што ў гэтай працы спэцыяльных галін павінен знайсьці свой адбітак працэс ператварэньня с.-г. каапэрацыі ў калгасную каапэрацыю. Адсюль становіцца зусім відавочнай задача такого каардынаваньня збыта-снабжэнчаскай працы спэцыяльных галін с.-г. каапэрацыі, каапэрацыі з дзейнасьцю калгасных аб'яднаньняў, якія арганізацыйна садзейнічалі-б разьвіцьцю калгаснай каапэрацыі, адначасова садзейнічалі-б найбольш шпаркаму ўцягненьню ў існуючыя калгасы і вытворчыя аб'яд-

наньні ваколічнага насельніцтва, найбольш шпаркаму ўзьнікненьню новых калгасаў і вытворчых аб'яднаньняў, іх узбуйненьню і, галоўнае, канцэнтрацыі крыніц накапленьня ў калгасным сэктары. Непасрэдным вынікам правільнага вырашэньня гэтай задачы зьяўляецца ўцягненьне калгасаў і вытворчых аб'яднаньняў калгаснай каапэрацыі ў эканамічную барацьбу з кулацтвам за ўладаньне тымі крыніцамі накапленьня, якія ўтвараюць глебу для кулацкай эксплёатацыі і за ператварэньне гэтых крыніц накапленьня ў сродак сацыялістычнае перабудовы вёскі. Каб працістаяць і пасьпяхова весьці барацьбу з кулацкім уплывам, неабходна рашуча не дапушчаць кулакоў у склад калгасу.

Як збыта-снабжэнчаская праца сыстэмы с.-г. каапэрацыі, выконваючы функцыю вытворчай калгаснай каапэрацыі, павялічвае свае разьмеры, таксама і чыста вытворчая праца спэцыяльных галін с.-г. каапэрацыі ва ўмовах росту калгаснай каапэрацыі ня толькі ня звужаецца, а ўсё больш пашыраецца.

Працэс будаўніцтва буйнай калектыўнай гаспадаркі, ахапляючы ў сваім разьвіцьці цэлыя раёны і ператвараючы іх у раёны суцэльнай калектывізацыі, з усёй вастратой высоўвае праблему спэцыялізацыі калгаснай вытворчасьці. Практычнае вырашэньне гэтай праблемы цалкам кладзецца на спэцыяльныя галіны с.-г. каапэрацыі. У сувязі з гэтым цэнтр цяжкасьці ў працы спэцыяльных галін с.-г. каапэрацыі па вытворчаму каапэраваньню і калектывізацыі перамяшчаецца на арганізацыю вызначанай тэрыторыі, і спэцыяльныя каапэрацыйныя галіны ператвараюцца ў апэрацыйныя падважнікі калгаснай каапэрацыі, працуючыя над тэхнічным аграмаджаньнем паасобных галін сельскай гаспадаркі на данай тэрыторыі.

Вытворчая калгасная каапэрацыя з яе спэцыяльнымі галінамі ў пляне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ператвараецца ў магутны сродак гэтай рэканструкцыі. Шлях, пройдзены каапэрацыяй за апошнія гады, сьведчыць аб тым, што ідэя перабудовы дробных сялянскіх гаспадарак у буйную калектыўную гаспадарку становіцца ўсё больш і больш здабыткам рабочае клясы і шырачэйшых бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

Пастановай Цэнтральнага Камітэту Усе КП ад 27-га чэрвеня 1929 г. намечаны асноўныя формы пабудаваньня калгаснай каапэрацыі; пастановай ад 26-га жніўня г. г. аб задачах кантрактацыі, камуністычная партыя паказала шырокі шлях уцягненьня разрозьненых дробных сялянскіх гаспадарак у рэчышча сацыялістычнага будаўніцтва. Нарэшце пастанова лістападаўскага пленуму ЦК аб калгасным будаўніцтве дае зусім яскравае арганізацыйнае вырашэньне пытаньняў аб узаемаадносінах паасобных частак калгаснай каапэрацыі і вызначае важнейшыя практычныя задачы калгаснага руху.

Адным з важнейшых артыкулаў гэтай пастановы лістападаўскага пленуму ЦК зьяўляецца арганізацыя аўтаномных сэкцый калгасаў пры спэцыяльных цэнтральных і акруговых саюзах с.-г. каапэрацыі. Робіцца гэта для таго, каб гэтыя аўтаномныя сэкцыі, непасрэдна абапіраючыся на калгасы, альбо куставыя аб'яднаньні, поўнасьцю ажыцьцяўлялі арганізацыйнае і апэрацыйнае абслугоўваньне калгаснага будаўніцтва пад кіраўніцтвам рэспубліканскага калгасцэнтру, каб, акрамя гэтага, прымусіць усю сыстэму с.-г. каапэрацыі больш рашуча павярнуцца тварам да калгаснага будаўніцтва і зьнішчыць тыя недахопы і хвасты старой гандлёвай каапэрацыі і кансэрватызм, які меў і мае яшчэ месца ў паасобных зьвеньнях нашае сыстэмы.

Аўтаномныя сэкцыі калгасаў неабходна арганізаваць зараз-жа пры асноўных спэцыяльных саюзах — Белпаляводсаюзе і малочна-жывёлагадоўчым

саюзе. Цэнтральны садова-гародны саюз, які пераважна абслугоўвае калгасы і саўгасы (75% сацыялістычнага сэктару), трэба ператварыць у калгасны спэцыяльны садова-гародны саюз і пры гэтым саюзе спэцыяльнай аўтаномнай сэкцыі калгасаў не арганізоўваць. Затым гэтакія аўтаномныя сэкцыі калгасаў неабходна арганізаваць пры ўсіх спэцыяльных акруговых паляводчаскіх і малочна-жывёлагадоўчых саюзах.

Што-ж датычыцца Магілеўскай акругі, якая пастановай ЦК КП(б)Б абвешчана як акруга суцэльнай калектывізацыі, дзе на працягу гэтага 1929-30 г. будзе праведзена 100% калектывізацыя, дык тут ужо зараз трэба самым рашучым чынам прыстасоўваць увесь савецкі і, ў першую чаргу, наш каапэрацыйны апарат для выконваньня гэтай вялікай задачы. У Магілеўшчыне, не арганізоўваючы аўтаномных сэкцый, патрэбна акруговы паляводчаскі саюз ператварыць у акруговы калгасны паляводчаскі саюз і малочна-жывёлагадоўчы саюз—у акруговы калгасны малочна-жывёлагадоўчы саюз, якія ўваходзяць членамі ў Магілеўскі акруговы калгассаюз, маюць паміж сабой арганізацыйную ўвязку і праводзяць сваю працу як спэцыяльныя акруговыя калгасныя саюзы па абслугоўваньні існуючых і арганізуемых калгасаў, яны маюць моцны арганізацыйны інструктарскі апарат дзеля абслугоўваньня калгасаў і праводзяць усю кантрактацыю па лініі спэцыяльных калгасных саюзаў, выконваючы такім чынам усе арганізацыйна-гаспадарчыя функцыі. Гэтыя Магілеўскія акруговыя спэцыяльныя калгасныя саюзы ў сваёй працы падпарадкоўваюцца сваім рэспубліканскім спэцыяльным саюзам і праводзяць сваю працу пад кіраўніцтвам і па пляну адпаведных рэспубліканскіх саюзаў.

У раёнах Магілеўшчыны патрэбна зараз-жа прыступіць да арганізацыі раённых калгасных саюзаў паводле прынцыпу спэцыялізацыі калгаснай каапэрацыі, арганізоўваючы раённыя калгасныя саюзы асноўных галін сельскай гаспадаркі дадзенага раёну. Напрыклад, калі Лупалаўскі раён мае жывёлагадоўчы напрамак, арганізуецца раённы малочна-жывёлагадоўчы калгасны саюз. Калі ў Шклоўскім раёне асноўнай галінай зьяўляецца паляводзтва, арганізуецца раённы паляводчаскі калгасны саюз. Гэты раённы калгасны саюз асноўнай галіны сельскай гаспадаркі абслугоўвае калгасы і, пакуль што, каапэраваныя і не каапэраваныя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі ўсіх галін сельскай гаспадаркі, ставячы перад сабой рашучую задачу як па абслугоўваньні існуючых, так і па арганізацыі новых буйных калгасаў са спэцыяльным напрамкам тае ці іншай галіны сельскай гаспадаркі.

Аўтаномныя сэкцыі калгасаў павінны мець свой статут, свае капіталы і фонды, органы кіраўніцтва і кантролю. Праўленьні сэкцый абіраюцца на агульным сходзе ўпаўнаважаных цэнтру (саюзу) упаўнаважанымі ад калгасаў. Побач з гэтым, упаўнаважаныя ад калгасаў супольна з усімі астатнімі членамі сходу ўпаўнаважаных абіраюць агульнае праўленьне спэцыяльнага цэнтру (саюзу). Такі-ж парадак патрэбна ўстанавіць і ў адносінах выбару саветаў і рэвізійных камісій. Кожная ніжэйстаячая сэкцыя зьяўляецца членам вышэйстаячай сэкцыі. Старшынёю праўленьня сэкцыі зьяўляецца старшыня праўленьня адпаведнага спэцыяльнага цэнтру (саюзу). Да скліканьня сходу ўпаўнаважаных сэкцыямі кіруе праўленьне, вызначаемае адпаведнымі цэнтрамі (саюзамі) с.-г. каапэрацыі, якое зацьвярджаецца рэспубліканскім калгасцэнтрам і г. д.

Дзеля правядзеньня капітальнага будаўніцтва ў калгасах і вытворчых аб'яднаньнях с.-г. каапэрацыі, неабходна зараз-жа пры рэспубліканскім калгасцэнтры арганізаваць спэцыяльную арганізацыю „Калгасбуд" на пачатках акцыянэрнага таварыства для абслугоўваньня будаўнічых патрэб. Дзеля таго, каб ня траціць часу, арганізацыі „Калгасбуду" неабходна зараз-жа прыступіць да працы па складаньні пляну на загатоўкі будаў-

нічых матар'ялаў з тым разьлікам, каб, пачынаючы з вясны, прыступіць да самага капітальнага будаўніцтва калгасаў і іншых патрэб будаўніцтва ў сельскай гаспадарцы.

Фарсуючы правядзеньне намечаных арганізацыйных мерапрыемстваў, нам неабходна зараз-жа прыступіць да рэарганізацыі нашай сыстэмы с.-г. каапэрацыі з тым разьлікам, каб да правядзеньня вясновай пасяўной кампаніі поўнасьцю скончыць гэту працу і мець перабудованы па-новаму апарат усяе сыстэмы с.-г. каапэрацыі, якая цалкам і поўнасьцю павінна пераключыцца на калгасныя рэйкі. Гэта мерапрыемства дапаможа з посьпехам правесьці вясновую пасеўную кампанію, якая будзе мець выключнае значэньне для ўсяго сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне і якая будзе рашучай па замацаваньню дасягнутых посьпехаў ў галіне сацыялістычнай перабудовы вёскі.

Неабходна зараз з усёй сілаю ўзяцца за гэтую працу, мабілізаваць вакол правядзеньня гэтае працы самую шырокую грамадзкасьць рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас, каб поўнасьцю выканаць вялізарнейшую задачу правядзеньня суцэльнай калектывізацыі ў БССР на працягу двух год.

---

**Рафальсон**

# Шляхі разьвіцьця прамкаапэрацыі БССР

*(Па кантрольных лічбах на 1929-30 год)*

Вялікую ролю надаюць партыйныя і савецкія органы разьвіцьцю саматужна-прамысловай каапэрацыі. Вось што казаў аб ёй верасьнёўскі пленум ЦК КП(б)Б: ...„у БССР прамкаапэрацыя набывае асаблівае значэньне, зьмякчаючы аграрную перанаселенасьць беларускай вёскі, разьвязваючы местачковую праблему, уцягваючы ў вытворчасьць гарадзкія масы беспрацоўных...“.

Гэта пастанова пленуму ЦК гаворыць нам аб тым, што саматужна-прамысловая каапэрацыя мае вялікія задачы і пэрспэктывы свайго разьвіцьця.

Вось кантрольныя лічбы на 1929-30 год, якія паказваюць шляхі разьвіцьця саматужна-прамысловай каапэрацыі БССР на бягучы год і намяркоўваюць у гэтым напрамку значныя тэмпы. Так, агульны лік каапэраваных саматужнікаў за 1929-30 г. узрастае на 32 проц., даходзячы да 43395 чалавек (у 1928-29 годзе працавала 32787 чал.).

Асаблівая ўвага зьвернена на каапэраваньне саматужнікаў у арцелях з агульнымі майстэрнямі: іх лік даходзіць у 1929-30 г. да 25929 чал., замест 16810 чал. у 1928-29 годзе,—гэта дае ўзрост на 54 проц. У гэты-ж час лік саматужнікаў-адзінак, каапэраваных у крэдытна-прамысловыя таварыствы, застаецца амаль што стабільным.

Папаўненьне ўжо існуючых арцеляў, а таксама арганізацыя новых арцеляў будзе ісьці за лік бядняцкай і серадняцкай часткі саматужнікаў, беспрацоўных з біржы працы і батракоў.

Вялікае разьвіцьцё атрымоўваюць промыслы, якія базуюцца на мясцовай і недэфіцытнай сыравіне. Да іх адносяцца дрэваапрацоўчы, лесахэмічны, керамічны, па выпрацоўцы будаўнічых матар'ялаў і іншыя. У той час, як рост каапэраваных у арцелях дэфіцытных промыслаў (шавецкім, скураным, кравецкім, мэталяапрацоўчым і інш.) дае павялічэньне на 45 проц., або 15932 пайшчыкі (у 1928-29 г. было 10994), лік каапэраваных у

арцелях,якія спажываюць недэфіцытную і мясцовую сыравіну, узрастае на 72 проц., даходзячы ў 1929-30 г. да 9997 чал. (у мінулым годзе працавала 5816 чал.).

Асаблівае разьвіцьцё дае промысел смалакураны, прадукцыя якога (смала, шпігінар...) ідзе на экспорт і на выпрацоўку будаўнічых матар'ялаў, як цэгла, чарапіца, кахля і г. д., якія неабходны нашаму будаўніцтву.

Мы разгортваем новыя промыслы, як сьпірта-парашковы, які выпрацоўвае драўняны сьпірт з дрэва. У гэтым годзе будзе працаваць 100 катлоў, на якіх будзе занята 150 чал.

Усе саматужнікі, як аб'яднаныя ў арцелі, так і адзінкі, выпусьцяць на 99963 р. прадукцыі. Сабекошт гатовай прадукцыі будзе зьніжаны на 7 проц. Зьніжэньне сабекошту будзе ісьці галоўным чынам за кошт рацыянальнага скарыстоўваньня сыравіны, уздыму вытворчасьці працы, увядзеньня палепшаных мэтадаў вытворчасьці (падзел працы, зьдзельная аплата), а таксама нармаваньня заробку.

Вялікую прадукцыю дадуць цагляныя арцелі, якія выпусьцяць у 1929-30 г. 35 міл. штук цэглы, што ў параўнаньні з мінулым годам дасьць павялічэньне на 200 проц.

Кантрольныя лічбы намяркоўваюць значнае павялічэньне экспарту. У той час, калі ў мінулым годзе экспарт дасягаў 139000 р., дык у 29-30 г. экспарт саматужных вырабаў будзе складаць 260000 р. Гэта дасьць нашай дзяржаве новыя валютныя сродкі.

Значна пашыраецца ў гэтым годзе і капітальнае будаўніцтва. На пабудову новых будынкаў для арцеляў, а таксама на рэканструкцыю і мэханізацыю будзе выдаткавана 2 мільёны руб. Гэтыя грошы будуць сыстэме адпушчаны пры накапленьні самой сыстэмай сваіх уласных сродкаў, як паявых, так і спэц. узносаў на капітальнае будаўніцтва.

Аднэй з галоўнейшых задач, якая стаіць перад сыстэмай,—гэта далейшая ачыстка яе ад сацыяльна-варожых, капіталістычных элемэнтаў шляхам узмацненьня нагляду за тым, каб пры каапэраваньні не пралазілі ў сыстэму элемэнты, якім не павінна быць месца ў арцелях і т-вах.

У выніку выкананьня кантрольных лічбаў будзе ўзьняты дабрабыт беларускіх мястэчак і наогул дабрабыт усяе саматужнае масы Беларусі.

---

**Зьнішчым межы на палёх у надыходзячую вясеньнюю пасеўную кампанію, злучым вузкія „шнуркі“ у шырокія абшары калектыўнай апрацоўкі, ператворым дробныя сялянскія гаспадаркі ў буйныя калгасы.**

**За актыўны, за 100-проц. удзел каапэрацыі ў калектывізацыі вёскі.**

---

# ПРАКТЫКА НАШАЕ ПРАЦЫ

Р—н

## Больш увагі да прамысловай каапэрацыі ў справе выпрацоўкі будаўнічых матар'ялаў

Пяцігадовы плян разьвіцьця народной гаспадаркі прадугледжвае капітальнае будаўніцтва вялікіх разьмераў. Аднак у справе будаўніцтва мы маем слабае месца — гэта недахоп будаўнічых матар'ялаў, як цэглы, чарапіцы, вапны і іншых. Гэтым і тлумачыцца тая ўвага, якая зварочваецца ўрадам гэтай справе.

Паўстае пытаньне: чаму неабходзен удзел прамысловай каапэрацыі ў вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў, і ці можа дзяржаўная прамысловасьць адна справіцца з гэтай задачай?.

1) Узрастаючае будаўніцтва нашай рэспублікі прад'яўляе запатрабаваньні ў будаўнічых матар'ялах у такіх вялікіх разьмерах, што дзяржаўная прамысловасьць адна задаволіць гэтыя запатрабаваньні ня можа ні ў якім разе. Адгэтуль зразумела, што дзеля пакрыцьця дэфіцыту ў будаўнічых матар'ялах неабходна прыцягнуць і прамысловую каапэрацыю.

2) Калі каапэрацыя адчыняе свае прадпрыемствы па выпрацоўцы будаўнічых матар'ялаў, яна патрабуе значна менш дзяржаўных сродкаў, чым дзяржаўная прамысловасьць, бо каапэрацыя будуе ня толькі за кошт дзяржаўных сродкаў, але і ў значным разьмеры ўкладае сродкі саміх членаў арцеляў. Зразумела, што і з гэтага боку прыцягненьне прамысловай каапэрацыі да выпрацоўкі будаўнічых матар'ялаў грае вельмі вялікую ролю, бо дае магчымасьць нашай дзяржаве тыя сродкі, якія ўкладае прамысловая каапэрацыя, кінуць на індустрыялізацыю краіны.

3) Як вядома, ёсьць дырэктывы як партыйных, так і савецкіх органаў, у якіх даецца яскравая ўстаноўка аб тым, каб усямерна разгортваць промыслы, якія працуюць на мясцовай і недэфіцытнай сыравіне. Зусім зразумела, што гліна—асноўная сыравіна, якая ідзе на выпрацоўку будаўнічых матар'ялаў, зьяўляецца недэфіцытнай, і ў нас, у БССР, мы маем яе ў вялікіх разьмерах. І з гэтага пункту погляду ўдзел прамысловай каапэрацыі набывае вялікае значэньне.

4) Пабудова саматужна-прамысловых заводаў па выпрацоўцы будаўнічых матар'ялаў вытвараецца, як вядома, у мястэчках і вёсках. Гэтым самым уцягваецца значная колькасьць местачковае і вясковае беднаты. З гэтага боку ўдзел прамысловай каапэрацыі набывае таксама і палітычнае значэньне, бо гэтым вырашаецца вялікая задача, якая стаіць перад сыстэмай прамысловай каапэрацыі па ўпарадкаваньню мястэчак, акрамя таго зьмяншае аграрную перанасялёнасьць беларускай вёскі і дае магчымасьць выканаць дырэктывы партыі аб уцягваньні ў прамысловую каапэрацыю батракоў.

Гэтым і тлумачыцца прыцягненьне прамысловай каапэрацыі да справы выпрацоўкі будаўнічых матар'ялаў.

Якія вынікі мы мелі ў гэтай справе ў 1928/29 годзе?

У мінулым 1928/29 годзе Белкустпрамсаюзам у сваёй праграме было вызначана выпрацаваць па ўсёй сыстэме прамысловай каапэрацыі БССР 22 мільёны штук цэглы, фактычна-ж было выпрацована 11 мільёнаў штук цэглы.

Чым тлумачыцца недавыкананьне вытворчай праграмы? Для ажыцьцяўленьня намеркаванай праграмы, Белкустпрамсаюзам былі запатрабаваны (і зацьверджаны адпаведнымі органамі) доўгатэрміновыя сродкі ў разьмеры 236 тыс. руб. Фактычна-ж на працягу 1928/29 году было атрымана ў чэрвені месяцы 1929 года ад Бепсельбанку 16 тыс. руб. замест вызначаных 25.000 руб., і толькі ў жніўні месяцы 1929 года (амаль па сканчэньні сэзону) ад Белкамунбанку было атрымана 150.000 руб. Сродкі камунбанку не змаглі даць эфэкту з прычыны позьняга іх атрыманьня. Гэта па-першае. Па-другое, шмат чаго залежала ад інструктарскага і кваліфікаванага тэхнічнага пэрсаналу, які яшчэ да гэтага часу адсутнічае ў сыстэме прамысловай каапэрацыі. І па-трэцяе, неабходна падкрэсьліць недастатковую ўвагу, якая зварочвалася на пытаньне аб будаўнічых матар'ялах як самой саматужна-прамысловай каапэрацыі, так і мясцовых партыйных і савецкіх органаў.

Набліжаецца будаўнічы сэзон. Вялікія абавязкі ўсклаў урад БССР на прамысловую каапэрацыю ў справе вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў. Вызначана ў 1929/30 г. выпусьціць 35 міл. штук цэглы. У прам. арцелях БССР, якія будуць выпрацоўваць будаўнічыя матар'ялы, будзе занята да 2 тыс. чал.

Дзеля пабудовы куст.-прам. заводаў па выпрацоўцы будаўнічых матар'ялаў сыстэме прам. каапэрацыі БССР будзе адпушчана доўгатэрміновых сродкаў каля 300 тыс. руб.

У мэтах забесьпячэньня сваячасовай падрыхтоўкі да будаўнічага сэзону 1929/30 г. Белкустпрамсаюзам ужо ўзьнята пытаньне аб забесьпячэньні арцеляў будаўнічымі матар'яламі, неабходнымі дзеля пабудовы цагельных заводаў, таксама аб прадастаўленьні шэрагу ільгот арцелям па выпрацоўцы будаўнічых матар'ялаў і аб забесьпячэньні іх хлебафуражом.

Патрэбен рашучы пералом у пытаньні аб будаўнічых матар'ялах. Павінна быць забясьпечана бесьперабойнасьць у фінансаваньні кустарна-прам. каапэрацыі з тым, каб сваячасова пачаць пабудову цагельных заводаў і не сарваць намеркаваны плян.

Неабходна ўлічыць усе недахопы сэзону мінулага году з тым, каб намеркаваную праграму на 1929/30 г. ня толькі выканаць на ўсе 100 проц., але і перавысіць яе.

Кожны лішні мільён штук цэглы зьяўляецца моцным ударам па настроях тых асоб, якія трактуюць аб скарачэньні нашага капітальнага будаўніцтва з прычыны недахопу будаўнічых матар'ялаў.

---

Сампромавец

## Зьвернем увагу на хворыя зьявішчы

### Шырэй разгорнем культасьветную працу ў арцельным сэктары Сампрамсаюзу

Ніхто цяпер не пачне адмаўляць таго, што падняцьце культурнага ўзроўню большае масы саматужнікаў, уцягнутых у сыстэму саматужна-прамысловай каапэрацыі наогул, а ў арцельны сэктар, які налічвае 20.000 чалавек, у асаблівасьці, зьяўляецца справаю вялікай палітычнай важнасьці. Шмат разоў ужо адзначалася як у друку, так і на розных сходах, нарадах і зьездах працаўнікоў прамысловай каапэрацыі аб узмацненьні працы сярод саматужнікаў па падвышэньні іх культурнага ўзроўню, аб

працы сярод бядняцка-серадняцкай часткі саматужнікаў, аб пабудове ў буйных арцелях ленкуткоў, агульна адукацыйных куткоў, ясьляў і дзіцячых пляцовак для тых арцеляў, дзе шмат жанчын, фізкультурных гурткоў, дзе шмат моладзі і г. д.

Але ўсе гэтыя добрыя пажаданьні і рашэньні, на вялікі жаль, большай часткаю застаюцца на паперы і ў жыцьцё не праводзяцца.

Якое-ж сапраўднае становішча на гэтым трэціи і вельмі важным фронце ў сыстэме Белсампрамкаапэрацыі? Ці зрабілі ўсе пастановы і рашэньні як савецкіх, так і партыйных органаў які-небудзь уплыў на Белсампрамсаюз у цэлым і на акруговыя сампрамсаюзы ў прыватнасьці, у сэнсе здавальняючага наладжаньня справы культасьветнае працы сярод саматужнікаў, а асабліва ў арцелях, якія знаходзяцца ў мястэчках і вёсках?

Трэба са ўсёю катэгарычнасьцю заявіць, што да гэтага часу рабілася яшчэ вельмі мала, каб зрушыць гэту працу з мёртвага пункту. Да гэтага часу гэтаму пытаньню ўдзялялася недастатковая ўвага з боку акруговых сампрамсаюзаў, а галоўнае ня было амаль ніякага кіраўніцтва гэтымі саюзамі ў галіне культпрацы ў арцелях на раёне. Калі ў гарадзкіх арцелях яшчэ наглядаецца сякая-такая праца і некаторае кіраўніцтва з боку акруговых саюзаў (хаця не ва ўсіх арцелях), дык у местачковых і вясковых арцелях абсалютна нічога ня робіцца, і становішча культасьветнай працы вельмі мізэрнае. Гэта можа давесьці са ўсёю пераканальнасьцю ніжэй прыведзены шэраг выняткаў з актаў выбарачнага абсьледваньня сацыяльнага кірунку працы сампрамкаапэрацыі, якое адбывалася ў лістападзе м-цы г. г. і ўдзельнікам якога мне давялося быць.

У арцелі „Гомтрыкатаж“, якая знаходзіцца ў адным з прамысловых гарадоў Беларусі—у Гомлі, вырабляюцца панчохі і шнуркі. Працуе ў ёй 56 асоб, з якіх жанчын—60 проц. і моладзі —25 проц. У пытаньні аб культасьветнай працы чытаем наступнае: „культпраца стаіць не на належнай вышыні: ні клюбу, ні чырвонага кутку пры арцелі няма, малапісьменных—11 проц., з гурткоў ёсьць толькі вайскова-стралковы. Больш нічога па культпрацы ня робіцца. А далей чытаем: „прыбытак у арцелі ў 1927-28 годзе быў 3200 рублёў, а ў 1928-29 годзе—10.000 рублёў. Выходзіць, прыбытак ёсьць досыць такі добры, а на культурную працу нічога не выдаткоўваецца“.

Кравецкая арцель „Единение“ у Гомлі аб'ядная 4 віды вытворчасьці: а) кравецкае, б) белашвейнае, в) куртачнае і г) масавае. У ёй занята 166 чалавек, у тым ліку жанчын—29 проц. і моладзі—11 проц. У графе аб культпрацы чытаем: „ні клюбу, ні чырвонага кутку няма пры арцелі. Карыстаюцца клюбам саматужнікаў, ды і то ў нязначнай ступені; спэцыяльных мерапрыемстваў для культурнага абслугоўваньня бядняцкай часткі арцелі не праводзіцца; былі выпадкі нацкоўваньня беднаты з боку заможных і клясава чужых элемэнтаў арцелі супроць важных мерапрыемстваў, якія праводзіла ў свой час арцель і спробы зрыву з дапамогай беднаты агульна-палітычных кампаній (зборы на карысьць Далёка-Усходняй Чырвонай арміі, дзень індустрыялізацыі, праца ў яўрэйскія сьвяты, зборы на самалёт „Біро-Біджан“ і г. д.“).

Цагляная арцель „Товарищ“ (Ветка, Гомельскае акругі). У ёй працуе 42 чал.—усе сяляне, беднякі і серадднякі, якія жывуць у Веткаўскім раёне; праца ў арцелі сэзонная—з мая да кастрычніка месяца; у разьдзеле аб культпрацы чытаем: „культпраца адсутнічае зусім. Пры арцелі ёсьць клюб, але ім ніхто ніколі не карыстаецца, гурткоў ніякіх няма, агульна-палітычныя кампаніі амаль што не праводзяцца, газэт ніхто ня чытае і ня выпісвае, сярод бядняцкай часткі ніякай працы не праводзіцца, маса палітычна вельмі адсталая і няпісьменная“. А прыбытак за сэзон 1928-29 году (6 м-цаў) складае 3.000 руб.

Канатна-вяровачная арцель „Пролетарий“ (Ветка, Гомельскае акр.). Аб'ядная яна 5 відаў вытворчасьці: а) вяровачнае, б) шпагатнае, в) шну-

ровачнае, г) ткацкае і д) лапцяплётнае. Працуе ў гэтай арцелі 342 чал., у тым ліку жанчын 58,8 проц. і моладзі да 23-х год—38,6 проц. Арцель мае вялікія пэрспэктывы ў бліжэйшым будучым, і ёсьць намер у бліжэйшыя 1-2 гады значна яе пашырыць і давесьці рабочы склад да 700 чалавек. Аб культпрацы чытаем: „Культасьветпраца амаль што не праводзіцца, аднэю з прычын гэтага зьяўляецца адсутнічаньне спэцыяльнага памяшканьня; газэты выпісваюць толькі 8-9 проц. сяброў арцелі: няпісьменных і малапісьменных у арцелі—60%, а сярод жанчын—80 проц.; гурткоў ніякіх няма, чыткі газэт адбываюцца рэдка, насьценгазэта выпушчаецца кампанейскім характарам раз у 2-3 м-цы; сталых насьценкораў ёсьць 4-5 чалавек, што складае 1,5 проц. сяброў арцелі, але і гэтыя пішуць вельмі рэдка. Уся астатняя маса саматужнікаў (веткаўская бедната і навакольнае бядняцка-серадняцкае сялянства) вельмі адсталая, пасыўная да культпрацы, якою зусім ня цікавіцца. Сярод беднаты ніякай працы не праводзіцца; на 3-ці заём індустрыялізацыі падпісалася ўсяго 30 проц. сяброў арцелі, і агульная сума падпіскі складае 10% іх месячнай зарплаты. Агульна-палітычныя кампаніі праводзяцца вельмі слаба. У арцелі вялікі процант жанчын і моладзі, а ясьляў, дзіцячых пляцовак і фізкультурных гурткоў няма. Прыбытак на 1-X-29 году быў 20.000 руб.“.

Арцель мойкі рызьзя „Труженіца“ (в. Рудня, Веткаўскі раён, Гомельшчына). Працуе ў арцелі 205 чалавек, з якіх жанчын 95 проц. Сацыяльны склад на 70-75 проц. батрацка-бядняцкі. Аб культпрацы чытаем: „Нічога няма“. Каротка, вельмі пераканаўча і ясна. Далей чытаем: „Поўнае ігнараваньне інтарэсаў і патрэб беднаты значна адбіваецца на іх ідэялёгіі, вытворчасьці працы і інш., як-та: а) нездавальненьне, якое высьветлілася ў гутарцы з групай бядняцкай часткі сяброў арцелі, б) усьведамленьне самотнасьці і закінутасьці і г. д. З боку Гомельскага Саюзу няма ніякага кіраўніцтва ў сэнсе інструктаваньня; сябры арцелі ня ведаюць дырэктыў партыі, ураду і ўсекапрамсавету аб працы сярод беднаты. Актыўнасьць у сяброў арцелі адсутнічае зусім. Грамадзкасьць таксама. Для разьвіцьця самакрытыкі наогул няма базы; бядняцкая частка сама запалохана і просіць прыняць належныя меры да палепшаньня іх становішча, заробак іх складае 25-30 руб. у м-ц. Свае гаспадаркі ня маюць. Культурна вельмі адсталыя“.

Можна было-б працягнуць яшчэ далей сьпіс арцеляў з такою характарыстыкай іх культурна-асьветнай працы, але прыведзеныя прыклады даюць нам досыць яскравы малюнак становішча такога важнага ў сучасны момант вучастку працы ў сыстэме сампрамкаапэрацыі Беларусі, на якім неабходна ўзмацніць працу і прыняць тэрміновыя і рашучыя крокі да ажыцьцяўленьня культасьветпрацы. Асабліва трэба павесьці працу сярод батрацка-бядняцкай часткі сяброў арцелі, як гарадзкіх, так і местачковых і вясковых у асаблівасьці. Акруговым саюзам і БСПС у цэлым неабходна ўзмацніць кіраўніцтва культпрацаю ў арцельным сэктары прамкаапэрацыі і дамагчыся рашучага пералому ў гэтым напрамку.

**Толькі калектывы дадуць магчымасьць пусьціць трактары і камбайны на нашых палёх, толькі калектыў палегчыць працу селяніна**

Я. Байцоў

# Аб доўгатэрміновым крэдытаваньні праз Усекабанк у 1929-30 г.

Перад пачаткам будаўнічага сэзону каапэрацыйныя арганізацыі зацікаўлены ня толькі ў тым, каб свае пляны па капітальнаму будаўніцтву правесьці праз плянуючыя органы, але зацікаўлены таксама высьвятленьнем таго, якімі сродкамі і з якіх крыніц яны будуць карыстацца дзеля ажыцьцяўленьня свайго пляну будоўлі.

Усекабанк, з свайго боку, пунктуальна вызначыў, якія сродкі могуць быць у яго распараджэньні ў 1929-30 годзе. Камітэт доўгатэрміновага крэдытаваньня, пры ўдзеле каапэрацыйных цэнтраў, разьмеркаваў гэтыя сродкі паміж каапэрацыйнымі сыстэмамі, а 19/XII гэтага году прэзыдыум Дзяржпляну зацьвердзіў гэтае разьмеркаваньне.

Па дзяржаўнаму бюджэту на 1929-30 г. вызначана сума 1 млн. руб.

Ад каапэрацыйных сыстэм паступіць у пагашэньне раней атрыманых пазык з сродкаў НКФ 637 тысяч рублёў. Процанты, якія прылічваюцца Наркамфіну па пазыках, выдадзеных за папярэднія гады, 147 тыс. руб., а ўсяго падлягае да разьмеркаваньня сродкаў Наркамфіну (агульнага фонду) 1.784 тысячы рублёў.

Прэзыдыум Дзяржпляну згадзіўся з тым, каб з гэтае сумы было застаўлена ў рэзэрве 75 тыс. руб. для неадкладнага звышплянавага будаўніцтва, а астатнюю суму ў 1.709 тыс. руб. разьмеркаваў паміж сыстэмамі наступным парадкам (у тыс. руб.):

| | На будаўніцтва | У зваротныя сродкі | Разам |
|---|---|---|---|
| Спажсыстэме | 593 | — | 593 |
| Сельска-гаспадарчай сыстэме | 220 | 400 | 620 |
| Сампрамсыстэме | 360 | — | 360 |
| Каапэрацыі інвалідаў | 20 | — | 20 |
| Жыльлёвай каапэрацыі | 16 | 50 | 66 |
| Арцелі был. паліткатаржан | — | 10 | 10 |
| Белсельснабу | — | 40 | 40 |
| Разам | 1209 | 500 | 1709 |

Апроч сродкаў Наркамфіну, Усекабанк мае сродкі сыстэм, якія альбо ўжо паступілі, альбо паступяць ад прыбыткаў 1928-29 г.

Так, паасобныя сыстэмы будуць мець:

а) Адлічэньні ў фонд ДК ад сваіх прыбыткаў:

| НАЗВА СЫСТЭМ | Астатак 1928-29 г. | Зварот раней атрыманых пазык | Паступленьні ад прыбыткаў 1928-29 г. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Спажыўсыстэма | 40 | 90 | 360 | 490 |
| Сельска-гаспадарчая | 41 | 2 | 130 | 173 |
| Сампрамсыстэма | 48 | 18 | 305 | 371 |
| Каапэрацыя інвалідаў | 16 | 11 | 50 | 77 |
| Жыльлёвая сыстэма | 22 | 5 | 50 | 77 |
| Паляўнічая „ | 1 | — | 1 | 2 |
| Разам | 168 | 126 | 896 | 1190 |

б) Ад прыбыткаў сыстэмы каапэрацыйнага страхаваньня:

| НАЗВА СЫСТЭМ | Мясцовага агэнцтва | Цэнтральных арганізацый | Зваротных пазык | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| Спажыўсыстэма | 18 | 65 | 42 | 125 |
| Сельска-гаспадарчая | 8 | 62 | 2 | 72 |
| Сампрамсыстэма | 7 | 30 | — | 37 |
| Жыльлёвая сыстэма | 2 | 5 | — | 7 |
| Каапэрацыя інвалідаў | — | 3 | — | 3 |
| Разам | 35 | 165 | 44 | 244 |

в) Ад прыбыткаў Усекабанку за 1927-28 год.

| | |
|---|---|
| Для спажывецкай каапэрацыі | 85 |
| „ сельска-гаспадарчай каапэрацыі | 8 |
| „ сампрамсыстэмы | 25 |
| „ каапэрацыі інвалідаў | 7 |
| Разам | 125 |

г) Ад прыбыткаў Цэнтрасаюзу для спажыўсыстэмы—400 тыс. руб.

Такім чынам каапэрацыя ў наступным годзе будзе мець для доўгатэрміновага крэдытаваньня суму грошай у 3 млн. 743 тыс. руб., з іх 1 млн. 959 тыс., або 53 проц. складаюць уласныя сродкі каапэрацыі, якія штогодна адлічваліся ад прыбыткаў мінулага году з мэтавым призначэньнем (капітальнае будаўніцтва).

У прыватнасьці сыстэмы каапэрацыі ў 1929/30 г. ад камітэту атрымаюць сродкаў:

| НАЗВА СЫСТЭМ | З боку НКФ | Свае накапленьні | Разам | Рэзэрвы | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| Спажыўсыстэма | 593 | 1100 | 1693 | — | — |
| Сельска-гаспадарчая | 620 | 253 | 873 | — | — |
| Сампрамсыстэма | 370 | 433 | 803 | — | — |
| Каапэрацыя інвалідаў | 20 | 87 | 107 | — | — |
| Жыльлёвая каапэрацыя | 66 | 84 | 150 | — | — |
| Паляўнічая „ | — | 2 | 2 | — | — |
| Белсельснаб „ | 40 | — | 40 | — | — |
| Разам | 1709 | 1959 | 3668 | 75 | 3743 |

Камітэт доўгатэрміновага крэдытаваньня, які існуе пры бел. канторы Ўсекабанку, ставіць сваёю мэтаю ў сёлетнім годзе праводзіць фінансаваньне будаўніцтва ў строга плянавым парадку.

Усім каапэрацыйным цэнтрам прапанована прадставіць камітэту пляны будаўніцтва, зацьверджаныя плянуючымі органамі. З гэтых плянаў сумесна з цэнтрам сыстэмы будуць вызначаны аб'екты будаўніцтва, якія будуць фінансавацца з боку камітэту.

Каапэрацыйныя арганізацыі паасобку або цэнтры іх прадстаўляюць камітэту каляндарныя пляны будаўніцтва і сумесна з тым пляны патрэбнага каляндарнага фінансаваньня. На падставе атрыманых прапрацованых арганізацыямі каляндарных плянаў будаўніцтва і фінансаваньня, камітэт складае свой плян фінансаваньня па сыстэмах, які будзе ажыцьцяўляцца ў будаўнічы пэрыод.

Калі арганізацыі маюць дагаворы з будаўнічымі арганізацыямі (Бел. Дзяржбуд, Жылсаюзы) на пабудову вызначанага ім плянамі цэнтраў будаўніцтва, тады трэба прысланы іх Камітэту.

З свайго боку камітэт прыме ўсе захады да таго, каб усе грошы, якія будуць вольныя ў камітэце, своячасова былі скарыстаны будаўнічымі арганізацыямі, калі дзеля гэтага ёсьць неабходнасьць.

А таму, каб атрымаць у камітэце ў пачатку будаўнічага сэзону авансы на падрыхтоўку будаўнічых матар'ялаў, неабходна папярэдне належным цэнтрам паклапаціцца: перш-на-перш, зацьвердзіць пляны плянуючымі органамі, а пасьля, з вызначэньнем аб'ектаў будаўніцтва, каляндарны плян будаўніцтва і фінансаваньня ў камітэце.

Без выкананьня гэтых умоваў камітэт ня будзе выдаваць ніякіх грошай.

У сувязі з тым, што з новых паступленьняў ад прыбыткаў 1928-29 г. трэба раней сабраць 896 тыс. руб., камітэт заклікае ўсе каапэрацыйныя арганізацыі сваячасова ўнесьці адлічэньні, якія з іх належаць па балянсах на 1/Х-29 г. у тэрмін, вызначаны цэнтрам сыстэмы.

Папярэджваем першапачатковыя арганізацыі (спаж. таварыствы, арцелі і г. д.) аб тым, што камітэт фінансуе будаўніцтва і выдае грошы ў зваротныя сродкі фондаў доўгатэрміновага крэдытаваньня выключна толькі па плянах цэнтраў і ніякіх індывідуальных, паміма саюзу, хадайніцтваў не разглядзжвае і не задавальняе. Камітэт будзе адсылаць да саюзу ўсе заявы першапачатковых арганізацый, якія будуць паступаць у камітэт.

І. Г—зе.

# Кан'юнктура па сыстэме спажыўкаапэрацыі БССР за лістапад месяц 1929 г.

## І. Агульная характарыстыка.

Рыначная кан'юнктура ў лістападзе захоўвала тэндэнцыі мінулага месяца. У аглядваемым месяцы, з прычыны значных грашовых паступленьняў ад рэалізацыі с.-г. сыравіны і значных грашовых астач у гаспадарцы і ў выніку нездаволенага попыту за папярэдні месяц, адзначаецца далейшае павялічэньне спажывецкага попыту з боку сельскага насельніцтва.

Так, па дадзеных грашовых запісаў добраахвотных карэспандэнтаў, грашовыя астачы ў сялянскай гаспадарцы ўзрасьлі з 20 руб. 60 к. у пачатку кастрычніка да 22 руб. 60 к. у канцы месяца. Магчыма паніжэньне прыбыткаў ад неземляробскіх заробкаў у сувязі з зацягнуўшымся бездарожжам у гэтым месяцы і насычанасьці сялянскае гаспадаркі грашыма не адбіваліся на паніжэньні спажывецкага попыту.

Улічваючы, што завоз асноўных прамтавараў не павялічыўся супроць значна паніжанага ў кастрычніку, а таксама улічваючы выцякаючую адгэтуль рэзкую неадпаведнасьць паміж попытам і яго таварным пакрыцьцём, трэба адзначыць, што попыт сельскага насельніцтва перамясьціўся на тавары другараднага сапажываньня. Як і ў кастрычніку, запаўненьне асартымэнту ішло шляхам далейшага разьвіцьця зваротаў з прадукцыяй мясцовае прамысловасьці, якая (прадукцыя) ў вызначанай частцы папаўняла недавоз прамтавараў у БССР.

У сувязі з сканчэньнем у асноўным загатовак хлеба і бульбы ўвага ўсяе грамадзкасьці і загатоўчага апарату была накіравана на ільно-загатоўкі, працякаўшыя ў мінулым пэрыодзе нездавальняюча. Спробам зрыву ільнозагатовак з боку кулацка-заможнае часткі вёскі пасьпешна проціставіла давядзеньне пляну да кулацкага двара.

Што-ж датычыцца попыту рабоча-гарадзкога сэктару, дык лістапад ня унёс істотных зьмен супроць мінулага месяца. Застаючыся на звычайным узроўні, попыт усё-ж не знаходзіў свайго таварнага задавальненьня з прычыны правадзімае палітыкі па пераважным забесьпячэньні загатоўчых раёнаў, а ўнутры БССР з прычыны накіраваньня тавараў у вёску.

Клясавая палітыка спажывецкае каапэрацыі вызначалася ў лістападзе ўстанаўленьнем дыфэрэнцыяваных норм для рабочага насельніцтва (мяса, цукар) і падвышанага забесьпячэньня аграмаджанага сэктару сельскае гаспадаркі.

У такіх умовах звароты спажыўкаапэрацыі, у параўнаньні з мінулым месяцам і адпаведнымі пэрыодамі мінулых гадоў, разьвіліся наступным чынам:

| | Паступіла | Перадана | Астачы: Абсалютн. | Астачы: У днёх да мінул. м-ца: Кастрычнік | Астачы: У днёх да мінул. м-ца: Лістапад |
|---|---|---|---|---|---|
| **Вясковыя спаж. т-вы** | | | | | |
| 1927-28 | +4,7 | +13,5 | +7,6 | 35,0 | 30 |
| 1928-29 | +8,4 | + 4,4 | +13,4 | 36,0 | 32 |
| 1929-30 | +14,0 | +14,6 | +0,7 | 31,0 | 29 |
| **Ц. Р. К.** | | | | | |
| 1927-28 | —6,2 | —6,4 | +2,4 | 40,0 | 30 |
| 1928-29 | +2,4 | —9,1 | +2,2 | 36,0 | 35 |
| 1929-30 | —4,5 | —1,1 | —6,2 | 27,0 | 27 |
| **Саюзы** | | | | | |
| 1927-28 | —0,1 | +0,9 | +2,5 | 21,5 | 22 |
| 1928-29 | +5,8 | +0,3 | +19,0 | 22,0 | 24 |
| 1929-30 | +25,1 | +14,5 | +1,1 | 16,0 | 18 |

Па вясковым сэктары звароты па продажы тавараў пры некаторым паніжэньні па рабочай каапэрацыі паказваюць значны ўзрост. Астачы, пры значным узросьце зваротаў, паказваюць далейшае скарачэньне па вясков. спаж. т-вах.

## II. Характарыстыка асобных таварных рынкаў

Агульны завоз тэкстылю трохі скараціўся супроць адпаведнага месяца мінулага году, што відаць з наступнай табліцы.

| НАЗВА ТАВАРАЎ | Лістапад 1928 г.: Сялу | Лістапад 1928 г.: Гораду | Лістапад 1928 г.: Усяго | Лістапад 1929 г.: Сялу | Лістапад 1929 г.: Гораду | Лістапад 1929 г.: Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | У тыс. руб. | | | | | |
| Баваўняныя | 1258 | 556 | 1814 | 1788 | 14 | 1752 |
| Суконна-ваўняныя | 320 | 60 | 383 | 194 | 3 | 197 |
| Іншыя | 120 | 42 | 162 | 240 | 12 | 252 |
| | 1698 | 661 | 2359 | 2172 | 29 | 2201 |
| Удзельная вага ў %% | 72 | 28 | 100 | 98,6 | 1,4 | 100 |

Горад, як і ў кастрычніку, атрымаў нязначную колькасьць, па мясцовых фабрыкатах мелася некаторае павялічэньне завозу. Мануфактура ў асноўным ішла на прэм'яваньне па загатоўках і на забесьпячэньне беднаты і калгасаў.

**Па гатовым адзеньні** адчуваўся вялікі попыт як у горадзе, так і ў вёсцы. Ня гледзячы на значны ўзрост зваротаў, у параўнаньні з мінулым годам, гатовага адзеньня не хапала для задавальненьня попыту.

У якой меры звароты павялічыліся, гэта відаць з наступных лічбаў:

| | Лістапад 1928 г. | | | Лістапад 1929 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сяду | Гораду | Усяго | Сяду | Гораду | Усяго |
| | У тыс. руб. | | | | | |
| Гатовае адзеньне | 96 | 624 | 720 | 692 | 617 | 1309 |
| Удзельная вага ў %% | 13,3 | 86,7 | 100 | 68,8 | 31,2 | 100 |

**Па трыкатажна-галянтарэйнай групе** наогул адчувалася недастатковасьць завозу, асабліва па спэцыяльным сэзонным трыкатажы. Значна павялічыўся зварот з мясцовай і саматужнай прамысловасьцю па гэтых таварах.

**Па скуртаварах і абутку** становішча аналёгічнае, як і па тэкстылі. Завоз скуртавараў зусім нязначны. Гарадзкім сэктарам зусім не атрымана гэтых тавараў, з прычыны гэтага пачыначныя майстэрні кустпрамсаюзаў і ЦРК зусім не працавалі. Становішча з абуткам пагоршылася. Удзельная вага завознага трэстаўскага абутку ў звароце значна паменшылася і займае ня больш 30 проц. Паміж сэктарам разьмеркаваньне тавараў выяўляецца ў наступных лічбах:

| НАЗВЫ ТАВАРАЎ | Лістапад 1928 г. | | | Лістапад 1929 г. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Сяду | Гораду | Усяго | Сяду | Гораду | Усяго |
| | У тыс. руб. | | | | | |
| Абутак | 132 | 88 | 220 | 545 | 247 | 792 |
| Калёшы | 175 | 59 | 234 | 102 | 60 | 162 |
| Скуртавары | 56 | 15 | 71 | 120 | — | 120 |
| Разам | 363 | 162 | 525 | 767 | 307 | 1074 |

У вялікім дэфіцыце зімні абутак (буркі, валенкі), адсутнічаньне якога значна павялічыла попыт на скураны абутак. Асабліва востра адчуваўся недахоп на боты. Попыт на калёшы задавальняўся нязначна.

Паступленьне **цукру** ў лістападзе аднолькава з паступленьнем яго ў кастрычніку. Недагруз у 40 вагонаў за кастрычнік застаўся пераходзячым і на далейшы час. Выдача цукру за лістапад, за выключэньнем некаторых вясковых мясцовасьцяй, праходзіла па норме.

Значна павялічыўся завоз **селядцоў**, але гэта не адбілася на паступленьні іх на рынак з прычыны нармаваньня іх водпуску. У канцы лістапада пачала паступаць салоная рыба. Спаж. т-вы пачалі працу нават з такой рыбай, як „комса“, ад якой яны раней адмаўляліся.

**Расьлiннае масла** ў значным недахопе ў сувязі з недагрузам Масла-жырсындыкату, перанесшага частку лістападаўскае нормы на пачатак сьнежня, і ў сувязі з павялічэньнем попыту з боку лесазагатоўчых арганізацый для забесьпячэньня прышоўшых рабочых на лесараспрацоўкі. Устаноўленая норма ў горадзе выдаткоўвалася без затрымкі.

Дэфіцыт на **махорку** і **тутуновыя вырабы** ў лістападзе падвоіўся. Махорка паступала выключна мэтавага прызначэньня (2.000 скрынак для лесазагатовак, 1000 скрынак для кантрактацыі махорачнага сырцу і 1700 скрынак для ільнаводных раёнаў).

Папярос у лістападзе паступіла на 5 мільёнаў больш, чым у кастрычніку, але попыт нельга было задаволіць, і запасы па сыстэме амаль поўнасьцю выдаткаваны.

На сьнежань у перспэктыве завоз табачных вырабаў; колькасьць курыцельнага табаку і махоркі будзе павялічана ў 2 разы.

Адзначаецца нябывалы да гэтага часу попыт на **сылікатныя тавары**, асабліва на фарфаравыя вырабы. Паступленьне сылікатных тавараў павялічылася, але недагруз з боку Прадасылікату застаўся, асабліва па фарфары. Па форменым цяжкім посудзе рынак задаволены поўнасьцю, і па гэтых таварах маецца недабор у 110.000—115.000 руб. Павялічыўся попыт на ваконнае шкло, адгрузка якога была нармальна. Звыш нормы атрымана каля 30 вагонаў. Адзначаецца павялічэньне попыту на лямпавае шкло.

З групай **культтавараў** у лістападзе паляпшэньня не адчувалася. Як і ў кастрычніку, у недахопе падручнікі і масавая сельгасп. літаратура. Радыё-фото-прылады ў вострым дэфіцыце. Дэфіцыт на паперу падвойваецца з прычыны скарачэньня норм водпуску. З папяровых вырабаў недахоп адчуваецца на сшыткі, норму вырабаў якіх мясцовая прамысловасьць ня выконвае. Як і ў кастрычніку, дзяржаўныя выдавецтвы ў першую чаргу забясьпечваюць сваю кнігагандлёвую сетку, што адбіваецца на забесьпячэньні вёскі кнігамі, дзе выключна спажкаапэрацыя мае кнігагандлёвую сець.

У галіне забесьпячэньня рабоча-гарадзкога сэктару каапэрацыі **сел.-гасп. прадуктамі** трэба адзначыць:

а) забесьпячэньне **хлебам** па вызначаных НКГандлю нормах праводзілася бязупынна. Адносна круп паляпшэньня ў параўнаньні з кастрычнікам не адчувалася. Круп, рысу і макарон не хапала;

б) забесьпячэньне спажыўца (пайнікаў) **мясам** па нормах праходзіла здавальняюча. Асартымэнт мясных прадуктаў у лістападзе значна папаўняўся птушкаю. Па некаторых ЦКР адчуваўся недахоп каўбасных вырабаў;

в) паляпшэньня ў забесьпячэньні малочнымі прадуктамі ў лістападзе не адчувалася з прычыны невыкананьня Белмалжывёлсаюзам і Белсельтрэстам пляну НКГандлю па забесьпячэньні ЦРК малаком і малочнымі прадуктамі; забесьпячэньне малаком спажыўца нязначнае; у некаторых ЦРК малако адпускалася толькі дзецям (Магілеў);

г) адносна **масла і сала** таксама паляпшэньня ў лістападзе не адчувалася; у асноўным ЦРК атрымалі толькі масла з запасаў БРС; забесьпячэньне гэтымі таварамі з боку спажыўсаюзаў і малжывёлсаюзаў вельмі недастатковае;

д) **па гародніне** адзначаецца ў лістападзе амаль што поўнае задавальненьне попыту; значная частка ЦРК арганізавала ў гэтым месяцы развоз

гародніны, асабліва бульбы, па дамох; запасы на зімовы час створаны, але не ў дастатковай колькасьці з прычыны непадрыхтаванасьці адпаведных схоўняў;

е) перабояў у забесьпячэньні **дровамі** не прыкмячалася, але запасы для бесьперапыннага забесьпячэньня насельніцтва недастатковы, і ЦРК прыходзіцца манэўраваць адно—і двохдзённымі запасамі. Па паведамленьню бабруйскага ЦРК, з боку Лесбелу ўмова адносна здачы 70 проц. цьвёрдых парод ня выконваецца; фактычна атрымана толькі 30 проц. цьвёрдых парод.

## III. Загатоўкі

Па **хлебе** за лістапад месяц загатоўлена 97,98 проц. месячнага заданьня: гадавое заданьне выканана на 166,6 проц.; павялічаны плян выкананы на 135 проц. Па выкананьні месячнага заданьня адстаюць: Менская акруга—90,6 проц., Бабруйская—88,4 проц., Гомельская—90,3 проц., Мазырская—44,5 проц. і Аршанская—90,9 проц.

За 10 дзён сьнежня загатоўлена 64,9 проц. месячнага пляну; гадавы плян на 10 сьнежня выкананы на 181,8 проц. Адначасова трэба адзначыць зьніжэньне ўдзельнае вагі харчовых культур у загатоўках: на 1 лістапада харч. культур было загатоўлена каля 52 проц. да агульнае загатоўкі зерня, а на 1 сьнежня загатоўка хлебных культур складае 48,4 проц. усіх загатовак зерня.

Пералому па загатоўках **ільнанасеньня** ў лістападзе не адчувалася. Месячны плян выкананы ўсяго на 30 проц.; гадавы плян на 1 сьнежня выкананы на 78,6 проц. Першая дэкада сьнежня таксама паказвае невыстарчальны тэмп: загатоўлена за гэтыя 10 дзён усяго 3,8 проц. гадавога пляну. Адстаюць: Гомельская акруга—28,7 проц., Мазырская—36,9 проц., Менская—58,6 проц., Бабруйская—64,8 проц. і Магілеўская—78,7 проц.

Па **мясазагатоўках** лістапад месяц зьявіўся значна больш ажыўленым, чым кастрычнік.

Месячны плян загатовак мяса выканан на 112 проц.; гадавы плян выканан на 23 проц. Рэзкае адставаньне прыкмячаецца па наступных акругах: Гомельская—50 проц., Віцебская—61,3 проц. і Менская—74,1 проц.

За 1-ю дэкаду сьнежня загатоўлена 42,3 проц. месячнага пляну; гадавы плян на 10 сьнежня выканан на 27,6 проц.

Пасьпяховай загатоўцы мяса перашкаджае існуючы разрыў паміж канвэнцыйнымі і рыначнымі цэнамі: загатоўчая цана—12 р. 50 к, рыначная-ж—20-22 руб.

Дастава сьвіней на адкорм па лініі рабочае каапэрацыі разгортваецца слаба; усяго па БССР пастаўлена на адкорм каля 1000 штук (заданьне—8.300 штук). Асноўнымі прычынамі, якія тармозяць гэту справу, зьўляюцца адсутнасьць памяшканьняў і сродкаў для прыстасаваньня і пабудовы новых памяшканьняў, а таксама нязначнае фінансаваньне гэтакіх апэрацый; акрамя таго, Белмалжывёлсаюз і спажсаюзы ня выконваюць сваіх абавязкаў па даставе сьвіней для ЦРК.

Па **ільнавалакне** ў лістападзе наступіў значны пералом—загатоўлена 84,2 проц. месячнага заданьня, але-ж выкананьне гадавога заданьня яшчэ вельмі недастатковае—25,5 проц. гадавога заданьня. Адстаюць: Менская акруга—52,8 проц., Гомельская—48,6 проц., Мазырская—69,2 проц., Аршанская—84 проц. і Магілеўская—65,6 проц.

Трэба адзначыць, што здаваемае ільнавалакно патрабуе апрацоўкі, бо селянін недаапрацоўвае ільнавалакно, імкнучыся здаць яго больш па вазе.

Па буйной **скурсыравіне** ў лістападзе маецца павялічэньне супроць кастрычніка амаль на 100 проц., і месячны плян выкананы на 123,7 проц.

З загатоўкамі **дробнае сыравіны**, як і ў кастрычніку, становішча нездавальняючае, і месячны плян выкананы ўсяго на 21,7 проц. Тлумачыцца гэта ў асноўным разрывам, які існуе паміж сялянскім спажываньнем аўчыны і магчымасьцю забесьпячэньня апрацаванай аўчынай.

Па загатоўцы **другарадных відаў сыравіны** становішча нездавальняючае. Тлумачыцца гэта:

а) незварочваньнем увагі на гэту галіну з боку спажсаюзаў і спажывецкіх т-ваў;

б) слабасьцю апарату па гэтай галіне ў спаж. сыстэме і

в) дрэнным становішчам дарог, дзякуючы чаму разьезды зборшчыкаў гэтае сыравіны (карабейнікі) па вёсках скараціліся.

## IV. Фінансавае становішча

Фінансавае становішча рабоча-гарадзкога сэктару ў лістападзе, як і ў кастрычніку, можна лічыць здавальняючым і адзначаецца, як відаць з ніжэйпаказанай табліцы, значным павялічэньнем астач касы і бягучых рахункаў (на 52 проц.) супроць кастрычніка, што тлумачыцца зьмяншэньнем таварных астач на 6,2 проц. пры паменшаным паступленьні тавараў на 4,5 проц., пры чым продаж тавараў паменшыўся ўсяго на 1,1 проц.

Па сельскай сетцы ў лістападзе фінансавае становішча супроць кастрычніка палепшылася і характарызуецца павялічэньнем на 26 проц. касавых астач, зьніжэньнем вэксальнае запазычанасьці на 6 проц., што тлумачыцца павялічаным паступленьнем паявых капіталаў—558,7 тыс. супроць 342 тыс. у кастрычніку, узмоцненым правядзеньнем разьлікаў за збытавыя апэрацыі (на 78,7 проц. больш, чым у кастрычніку, пры павялічэньні і паступленьні гэтых тавараў толькі на 50,2 проц.) і стабільнасьцю таварных астач.

Па саюзах фінансавае становішча заставалася напружаным і характарызуецца значным зьмяншэньнем астач касы і бягучых рахункаў (на 37,4 проц.), што тлумачыцца зьмяншэньнем банкаўскіх лімітаў на 22 проц., павялічэньнем паступленьня тавараў на 25,1 проц. пры павялічэньні продажу іх толькі на 14,5 проц. і пагоршаньнем умоў разрахункаў.

У пэрспэктыве на сьнежань выяўляецца значнае пагоршаньне фінансавага становішча па прычынах:

а) скарачэньня банкаўскіх крэдытаў;

б) павялічэньня таварнага завозу;

в) значнага выдаткоўваньня сродкаў па падатках (аплата прампадатку і авансаў па падатку ад прыбытку прыблізна па ўсёй сыстэме каля 2.000 руб.);

г) правядзеньня 8-проц. абавязковае пазыкі і

д) грашовага пагоршаньня ўмоў разрахункаў.

Толькі пры значным націску на збор сродкаў ад насельніцтва шляхам узмоцненага збору паёў, укладаў і авансаў і мабілізацыі сваіх фінансаў спажыўсыстэма зможа выйсьці здавальняюча з напружанага фінансавага становішча, якое ёй пагражае.

## V. Паянамнажэньне

Паянамнажэньне за апошнія 2 месяцы працякала наступным чынам: (у тыс. руб.).

| | За лістапад 1929 г. | | | За кастрычнік | Усяго за кастрычнік і лістапад | Заданьне на I квартал 1929-30 г. | % выканапьня кварт. заданьня |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I палова | II палова | Усяго | | | | |
| Сельская сетка | 216,5 | 270,2 | 486,7 | 342,3 | 829,0 | 2200,0 | 37,7 |
| Рабочая сець | 37,6 | 50,5 | 88,1 | 118,0 | 206,1 | 630 | 32,7 |
| Усяго | 254,1 | 320,7 | 574,8 | 460,3 | 1035,1 | 2830,0 | 36,6 |

Як відаць з гэтай табліцы, хоць лістапад і даў па сельскай сетцы значнае падвышэньне збору паёў супроць кастрычніка, але тэмп збору паёў зьяўляецца зусім невыстарчальным: усяго сабрана 37,7 проц. квартальнага заданьня, што пагражае невыкананьнем пляну паянамнажэньня ў 1-м квартале.

Па асобных акругах становішча наступнае: Менская акруга выканала 33,9 проц. заданьня, Бабруйская—42,1 проц., Віцебская—47,7 проц., Полацкая—37,4 проц , Гомельская—39,9 проц., Мазырская—23,6 проц., Аршанская—39,8 проц. і Магілеўская—34,4 проц. Сярэдні пай на I/XII складаў 9 р. 68 к. супроць 9 р. 21 к. на 1-е кастрычніка. Па сярэднім паі адстаюць: Магілеўская акруга—8 р. 37 к., Менская—9 р. 10 к., Бабруйская—9 р. 44 к., Полацкая—9 р. 53 к. і Аршанская—9 р. 67 к.

Па рабочай сетцы маецца зьніжэньне паступленьня паёў супроць кастрычніка (88,1 тыс. супроць 118,0 тыс. у кастрычніку). Квартальнае заданьне выканана на 32,7 проц. Адстаюць: Полацкі ЦРК—15,2 проц., Аршанскі—17,8 проц., Мазырскі—24,4 проц., Магілеўскі—28,8 проц., Гомельскі—30,0 проц. і Віцебскі—21,7 проц.

Сярэдні пай на I/XII складаў 13 р. 19 к., а на I/XI—13 р. 23 к., што тлумачыцца значным павялічэньнем каапэраваньня ільготнікаў.

# НА МЕСЦАХ

А. Асташонак

## Замацуем дасягненьні дзяржпазык

Партыя і грамадзкасьць досыць зварочваюць увагу на пасьпяховае ўнядрэньне дзяржпазык у масы рабочых і сялян, але, ня гледзячы на гэта, сялянства яшчэ досыць слаба зразумела важнасьць дзяржаўных пазык як для дзяржавы, так і для сябе. Сялянства яшчэ ў нязначным ліку купляе аблігацыі і ня трымае іх пры сабе, ня гледзячы на тое, што дзяржаўныя пазыкі зьяўляюцца лепшаю схоўняй свабодных сродкаў, ня менш прыбытковай, чымся захаваньне грошай у касах ашчаднасьці; акрамя таго, яшчэ ёсьць і перавагі, і перавагі досыць каштоўныя — гэта тое, што пазыкі, акрамя захаваньня сродкаў, даюць і выйгрышы. На нязначную суму аблігацый, прыкладна 5 рублёў, магчыма выйграць 1000 р., 2000 р., 5000 р., 10000 руб.

Акрамя пераваг, трымацелі дзяржпазыкі дапамагаюць савецкай дзяржаве будаваць новае жыцьцё—сацыялізм. Купіць аблігацыі і зараз-жа іх прадаць — гэта самае шкоднае зьявішча, якое не дае магчымасьці дзяржаве весьці плянавую грашовую працу па задавальненьні грашыма плянавага будаўніцтва.

Для таго, каб крэдыт насельніцтва ў сапраўднасьці дапамагаў дзяржаве выконваць вялізарныя задачы, выкліканыя індустрыялізацыяй краіны, крэдыт павінен быць доўгатэрміновым. Сродкі, атрымліваемыя ад рэалізацыі дзяржпазык, укладаюцца ў будаўніцтва новых фабрык, заводаў, электрычных станцый і чыгунак, у індустрыялізацыю сельскае гаспадаркі, на ўпарадкаваньне прамысловасьці і інш. Усе гэтыя ўкладаньні зьяўляюцца абсалютна прадукцыйнымі і ў большай сваёй частцы рэнтабельнымі. Зварот гэтых сродкаў насельніцтву забясьпечваецца агульным павялічэньнем народных прыбыткаў, якія савецкая дзяржава атрымлівае дзякуючы ўсім мерапрыемствам па індустрыялізацыі ўсяе народнае гаспадаркі СССР, а не ад прыбыткаў з падаткаў, як гэта робіцца ў замежных капіталістычных дзяржавах.

Зварот насельніцтву пазычаных праз выпуск дзяржпазык грошай, якія дзяржава затрачвае на пабудову новых фабрык и заводаў, можа адбыцца цераз шмат год, дзякуючы чаму крэдыт насельніцтва дзяржаве, зроблены праз дзяржаўныя пазыкі, павінен быць не кароткатэрміновым, а доўгатэрміновым. Між тым досыць значная частка працоўных разглядае сваё ўдзельнічаньне ў дзяржаўных крэдытных апэрацыях дзяржавы, як кароткатэрміновае зьмяшчэньне сваіх сродкаў на неабходныя патрэбы: на набыцьцё вопраткі, паездку на курорт і іншыя асабістыя патрэбы, і зараз-жа пасьля выплату аблігацый яна нясе іх у крэдытную ўстанову, каб прадаць і атрымаць на рукі грошы; другая-ж частка трымацеляў дзяржпазык закладвае свае аблігацыі ў крэдытных установах, атрымліваючы пад аблігацыі 60 проц. Такім чынам, працоўныя зноў атрымліваюць ад дзяржавы пазычаныя ёй сродкі, і доўгатэрміновы крэдыт (на некалькі год) зноў застаецца кароткатэрміновым (на некалькі месяцаў).

Гэта ненармальнае зьявішча—заўчасны продаж дзяржпазык—павінна быць зьнішчана; з гэтаю мэтаю неабходна, каб партыйныя, грамадзкія і прафэсіянальныя арганізацыі павялі рашучую барацьбу за трыманьне пазык на руках з захаваньнем іх у крэдытных установах (банках і касах ашчаднасьці, крэдытных таварыствах).

Існуючыя камісіі садзейнічаньня дзяржкрэдыту павінны аднавіць сваю дзейнасьць на прадпрыемствах і установах, пры чым дзейнасьць гэтых камісій павінна выражацца: 1) у узмацненьні растлумачальна-прапагандысцкай працы, 2) усебаковым абслугоўваньні інтарэсаў трымацеляў дзяржпазык, 3) забясьпечаньні працоўных і сялянства сваячасовай інфармацыяй аб тыражох і выйгрышах, 4) неадкладным замацаваньні 3-яе пазыкі за калектыўнымі падпісчыкамі і 5) наладжваньні дачы ўсякага роду даведак і кансультацый. Галоўнае — гэта тое, каб растлумачыць трымацелям пазык выгоднасьць хаваньня аблігацый у крэдытных установах і магчымасьць зваротнага іх выкупу.

Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на працу камісіі садзейнічаньня дзяржкрэдыту сярод сялянства. Там, дзе камісія садзейнічаньня пры сельсаветах працуе стала, цікавіцца працаю распаўсюджаньня дзяржпазык, там ёсьць і сталыя вынікі. Аб гэтым сьведчыць праца Слабодзкага сельсавету, Заслаўскага раёну: дзякуючы працы камісіі ўсе падпісаліся на 100%; акрамя таго, выклікалі на спаборніцтва вёску Крыніцы, якая, прыняўшы выклік, усёю вёскаю падпісалася на 100%.

Вёскі Рабушкі і Недаразка цалкам падпісаліся на 3-ю пазыку, пры чым пастанавілі здаць аблігацыі калектыўна на захаваньне ў касу ашчаднасьці пры сельсавеце на 10 год—на ўвесь час выпуску гэтае пазыкі.

Побач з добраю працаю камісій садзейнічаньня дзяржкрэдыту і ўпаўнаважаных трэба адзначыць і вельмі дрэнную іх працу. Былі выпадкі, калі сялянства не зразумела карысьці дзяржпазык і пад напорам кулакоў выносіла зусім антысавецкія пастановы. Так, у вёсцы Лабэншчына, у якой налічваюцца 22 двары і якая ў сельскагаспадарчым крэдытным таварыстве атрымала крэдыту тысячу семсот рублёў, пры абгаварэньні пытаньня аб дзяржпазыках прыняла гэтакую пастанову: „Мы, сяляне вёскі Лабэншчына, адмаўляемся ўзяць пазыку трэцяга выпуску“.

Гэты выпадак трэба разглядаць як дрэнную працу камісій садзейнічаньня і ўсіх грамадзкіх арганізацый на вёсцы, якія прагледзелі кулацкую агітацыю і тым самым паставілі ў вельмі няпрыемныя ўмовы беднату, галасаваўшую супроць гэтае пастановы. Гэтакіх зьявішчаў больш не павінна быць. Камісіі павінны ўзяцца за растлумачальную працу сярод беднаты, і тады бедната не падасца на кулацкія хітрыкі.

---

Сяргей Лодысеў

# Сучаснае становішча Дняпросаюзу

Дняпросаюз па сваім фінансавым становішчы знаходзіцца ў надзвычайна цяжкіх абставінах, і з гэтае прычыны праца Дняпросаюзу ў адносінах гаспадарчае адбудовы, арганізацыі спажыўца і палепшаньня яго абслугоўваньня занадта ненармальная.

Усё-ж, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, Дняпросаюз мае за 1928-29 гаспадарчы год значныя дасягненьні. Аб гэтым могуць сьведчыць наступныя лічбовыя паказальнікі:

| ПАКАЗАЛЬНІКІ | Пляны заданьня і кантрольныя лічбы на 1928-29 г. | % % выкананьня | Становішча | |
|---|---|---|---|---|
| | | | На 1/X-28 г. (за 1927-28 г.) | На 1/X-29 г. (за 1928-29 г.) |
| а) Звароты саюзу | 18000000 | 107,1 | 12643980 | 19276800 |
| „ саюзу Віц. акр. | 9400000 | 113,0 | 7273580 | 10620000 |
| б) Нарыхтоўкі саюзу | 1350000 | 213,3 | 1237010 | 2880170 |
| „ саюзу Віц. акр. | 1000000 | 132,7 | 833890 | 1461000 |
| в) Уласныя сродкі саюзу | 1000000 | 134,1 | 668850 | 1340920 |
| „ „ Віц. акр. | 1220000 | 106,6 | 853460 | 1400000 |
| г) Пайнікі | 11320 | 179,5 | 56325 | 76654 |
| д) Паявыя капіталы | 276000 | 130,7 | 313874 | 574705 |

Што тычыцца каапэрацыйна-асьветнай, а таксама і бытавой працы за 1928-29 год, дык па гэтай галіне працы маюцца гэтакія дасягненьні: падрыхтавана і перападрыхтавана праз курсы, якія былі арганізаваны Дняпросаюзам, Белкаапсаюзам і Цэнтрасаюзам, 200 асоб; у Дняпросаюзе ўжо працуюць 9 таварышоў, якія скончылі Беларускі кааптэхнікум; утрымоўваюцца за кошт Дняпросаюзу стыпэндыяты: на вышэйшых каапэрацыйных курсах у Ленінградзе—4 асобы, у Белкааптэхнікуме—13 асоб і на караткатэрміновых курсах пры Белкаапсаюзе—16 асоб, а разам—33 таварышы.

Значна палепшылася, у параўнаньні з мінулым годам, абслугоўваньне пайнікаў кіно, бо на сёньняшні дзень маецца 27 кіноперасовак.

Дняпросаюз за гэты год прарабіў значную працу і па другіх галінах: арганізаваў 12 дзіцячых ясьляў, 24 пляцоўкі, 9 курсаў па кройцы і шыцьці і адчыніў 4 культурныя чайныя.

Значна палепшыўся і кніжны гандаль; у мінулым годзе было рэалізавана рознае літаратуры і брашур на 20.598 р., у гэтым годзе—на 56.000 р.

Вядома, што Дняпросаюз мае і шмат недахопаў: грамадзка-масавая і культасьветная праца недастаткова разгорнута; ня зусім добра пастаўлена праца з каапэрацыйным актывам, а таксама і з усёю масаю пайнікаў; чарапашымі крокамі ідзе высоўваньне рабочых, батракоў і сялян-беднякоў на кіруючыя пасады ў органы каапэрацыі, і наогул слаба абстаіць справа з падрыхтоўкаю новых кадраў работнікаў. Адчуваецца нейкая інэртнасьць у гэтым напрамку і ў некаторай ступені нават кансэрватызм.

Прыдзецца Дняпросаюзу крыху разварушыцца ў напрамку наладжваньня плянавасьці і палепшаньня якасьці каапэрацыйна-асьветнае працы, скарыстоўваючы сродкі культфонду выключна па сваім прызначэньні. Неабходна зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на культабслугоўваньне пайнікаў, якія знаходзяцца ў саўгасах і калгасах.

Плянавасьць у працы з пайнікамі і ўпаўнаважанымі, асабліва ў сучасны момант у зьвязку з падрыхтоўчай справаздачна-перавыбарчай кампаніяй камітэтаў узаемадапамогі і каапэрацыі, павінна праводзіцца больш узмоцненым тэмпам шляхам азнаямленьня пайнікаў з сучаснымі палітычна-гаспадарчымі задачамі.

Каапэраваньне беднаты і батрацтва, а таксама і выкананьне дырэктыў адпаведных органаў па сваячасовым і поўным скарыстаньні фонду на каапэраваньне беднаты праводзіліся Дняпросаюзам недастаткова, асабліва па такіх раёнах, як Копыскі, Талачынскі і Дубровенскі, па якіх засталося нескарыстанымі каля 5.000 руб. (фонд каапэр. беднаты).

Прыдзецца Дняпросаюзу паклапаціцца і наконт поўнага выкананьня абавязкаў па звароце выдадзеных пазык на каапэраваньне за лік фонду беднаты і батрацтва з тым, каб за рахунак гэтых пазык каапэраваць новых батракоў і беднякоў.

Дзякуючы таму, што работа па каапэраваньні і абслугоўваньні сяброў калгасаў была недастатковаю, неабходна, каб Дняпросаюз і акркалгассаюз распрацавалі і ажыцьцявілі мерапрыемствы па каапэраваньні і абслугоўваньні спажыўсыстэмаю сяброў калгасаў (адчыненьне крам, ларкоў, раздробны гандаль, кіноперасоўкі, кніжны гандаль, дзіцячыя ясьлі, пляцоўкі, каапгурткі, школы і інш.).

На рабоце Дняпросаюзу дрэнна адбілася і адбіваецца яшчэ і тое, што Дняпросаюз недастаткова забясьпечаны кваліфікаванымі працаўнікамі (па аграпрацы, нарыхтоўках, рахункаводзтве і гандлі). Заўважаецца наяўнасьць у рабоце саюзу і спажыв. сыстэмы клясава-чужога і нават злачыннага элемэнту.

Бухгальтэрыя і справаздачнасьць адстаюць; наглядаюцца нячоткасьць калькуляцыі, пераборы па налажэньнях на тавары і несваячасовая выверка рахункаў.

Наглядаюцца наяўнасьць па ўсёй сыстэме растрат і несваячасовае іх выяўленьне (справа Шырокава, Лямпрэтава і К-о), моманты самазабясьпечаньня працаўнікоў, слабая праца інструктарскага апарату, недастатковая чоткасьць у разьмеркаваньні дэфіцытных прамтавараў паміж асобнымі групамі спажыўцоў і несваячасовая іх адпраўка на месцы.

Дрэнна абстаіць справа і з такім важным пытаньнем, як сацыялістычнае спаборніцтва; былі моманты парушэньня клясавай лініі.

Рэвізійныя камісіі ў большасьці сваёй працуюць дрэнна, а значная частка апошніх нават і зусім бязьдзейнічае.

Неабходна будзе праўленьню ўлічыць вось усе гэтыя моманты адмоўных бакоў працы і ў далейшай сваёй штодзённай рабоце забясьпечыць правільнае і выразна-чоткае правядзеньне клясавай пралетарскай лініі. Тых асоб, якія парушаюць гэтую лінію, трэба прыцягваць да належнае адказнасьці. Неабходна безадкладна ачысьціцца ад сацыяльна-чужога і злачыннага элемэнту.

Райвыканкомы і саветы павінны будуць усе складачныя і крамныя памяшканьні прадастаўляць у першую чаргу каапэрацыйным арганізацыям.

Дняпросаюз не зьвярнуў належнай увагі і на працу па налічэньні і зборы дыфэрэнцыяванага паю, дзякуючы чаму наглядаюцца самацёк і скрыўленьне клясавае лініі, бо бедната, якая вызвалена ад сельгаспадатку, выканала заданьне на 68,6 проц., а кулакі—толькі 42,8 проц. Па асобных раёнах (Чарэйскі) бедната выканала на 40,9 проц., а кулакі—на 16,8 проц. Тэмп мабілізацыі сродкаў насельніцтва, у параўнаньні з запатрабаваньнямі спажыв. каапэрацыі, асабліва ў сучасны момант, калі неабходна дзяржсродкі з тавараабароту спажсыстэмы аслабаніць і перадаць на патрэбы індустрыялізацыі краіны, зьяўляецца надзвычайна недастатковым.

Каб зьнішчыць гэтыя недахопы, патрэбна не паслабляць тэмпу каапэраваньня і дабіцца рашучага пералому ў справе мабілізацыі сродкаў насельніцтва, выправіўшы меўшае месца скажэньне клясавае лініі пры зборы дыфэрэнцыяванага паю. Асаблівы нажым павінен быць накіраваны на выкананьне абавязкаў з боку заможнай часткі вёскі. У адносінах кулакоў трэба ўжываць мэтады выключэньня з ліку пайнікаў і эканамічнага ўзьдзейнічаньня пры зацавальненьні прамтаварамі.

Вось усё тое, што мы маем на сёньняшні дзень у Дняпросаюзе. Як відаць, у яго рабоце адмоўных бакоў больш, чым станоўчых. Трэба спадзявацца, што гэта Дняпросаюзам будзе ўлічана, і ён возьмецца за працу як сьлед.

---

**Ф-аў**

## За выкананьне рацмінімуму Менскага ЦРК

Праўленьне Менскага ЦРК 5 верасьня прыняло пастанову аб выкананьні рацыяналізатарскага мінімуму; быў складзен канкрэтны плян з вызначэньнем цьвёрдых тэрмінаў выкананьня па кожным пункце, пры чым выкананьне было ўскладзена пэрсанальна на адказных працаўнікоў па галінах іх дзейнасьці. Гэты плян быў абгавораны на сходзе ўпаўнаважаных, каап. крамачных камісій і сходзе працаўнікоў крам. У якасьці „штурхачоў“ і кантралёраў з складу ўпаўнаважаных арганізацыйнае сэкцыі было вылучана 10 рабочых раённых брыгад, кожная па 5-7 чалавек. Плян выкананьня рацмінімуму быў надрукованы ў газэтах.

Як-жа выкананы рацыяналізатарскі мінімум? Аб гэтым на днёх у аргсэкцыі ўпаўнаважаных, у прысутнасьці членаў брыгад, быў заслуханы даклад. Вынікі маюцца, але яшчэ нездавальняючыя.

Найбольш спрыяюча рацмінімум выкананы па частцы пашырэньня гандлёвае сеткі і павялічэньня гадзін гандлю.

Па пляну на 1929-30 год вызначана гандлёвую сетку павялічыць на 45 адзінак. За 2 месяцы, гэта зн. да 1/XII—29 г., ужо адчынена 18 крам і 9 ларкоў. Да 1/XII-29 году праўленьне мела намер давесьці колькасьць паўтары-і дзьвюхзьменных крам да 66 адзінак, на самай-жа справе да вызначанага тэрміну ўжо пераведзена на дзьвюхзьменную працу 55 крам і паўтарызьменную 65 крам, што складае павялічэньне пляну больш, чым на 60 проц.

З такім-жа посьпехам выкананы плян аб пераводзе крам на бесьперапынны рабочы тыдзень: замест вызначаных 66 адзінак, працуюць бесьперапынна 73 крамы—40 проц. усяе сеткі.

Закончана прымацаваньне пайнікаў да хлебных і бакалейных крам; не закончана толькі яшчэ прымацаваньне пайнікаў да мясных крам.

Маецца вялікі зрух у адносінах папярэдняга разважваньня тавараў. Калі год таму назад праўленьне загадала крамам арганізаваць фасоўку тавараў у 4 крамах, як вопыт, дык цяпер тавар фасуецца ўва ўсіх крамах, дзе толькі дазваляюць памяшканьні. Гэтая сыстэма вельмі выгодная таму, што пры фасоўцы тавараў ідзе параўнаўча меншы процант на натуральную страту, а пры разважваньні некаторых тавараў зусім няма яе.

Наладжана таксама заўчасная дастаўка тавараў па крамах перад чарговымі раздачамі іх пайнікам, каб адначасова выдаваць па ўсіх крамах, а гэта ў практыцы работы мае жыцьцёвае значэньне. Да апошняга часу тавар з крам выдаваўся адразу-ж па атрыманьні яго, неадначасова, што стварала вялікія чаргі, і пайнікі кідаліся з аднае крамы ў другую, лаялі загадчыкаў „за бязьдзейнасьць“ і г. д.

Усе крамы забясьпечаны спэцыяльнымі даведчымі дошкамі, на якіх азначаны парадак водпуску тавараў, колькасьць тавару, па якіх талёнах і г. д., што ў значнай ступені пазбаўляе пакупцоў ад лішніх пытаньняў.

Вось узор нашае дошкі:

| НАЗВЫ ТАВАРАЎ | Колькі на кніжку | Колькі на едака | № талёну і колер | Цана | Мес. |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | |
| | | | | | |
| | | | | | |

Па гэтай форме загадчык адзначае крэйдай выдачу тавараў ці проста накладвае на дошку ліст паперы з адзнакамі па адпаведных графах.

Таксама выкананы хоць з некаторым спазьненьнем пункты пляну ў справе падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі працаўнікоў крам: праведзены курсы па падрыхтоўцы працаўнікоў прылаўку на 200 чал. з ліку беспрацоўных; працавалі курсы вылучэнцаў у заг. магазынаў на 50 чалавек, навербаваных з вытворчасьці; арганізуюцца курсы па перападрыхтоўцы працаўнікоў крам і загадчыкаў; адчынена перадатачная майстэрня для гатовага адзеньня і 4 майстэрні для рамантаваньня абутку. Праўда, працай ў гэтых майстэрнях яшчэ нельга пахваліцца: утвараюцца вялікія чаргі пры здачы, іншы раз заказ затрымліваецца да месяца, нядобрасумленна выконваецца праца і г. д.

Яшчэ ня зусім добра абстаіць справа з папярэднімі заказамі і дастаўкай тавараў на дом. Зрух тут маецца, але хваліцца яшчэ нельга. Усё гэта тлумачыцца тым, што спажывец неасьвядомлены, што і пацьвердзілася пры абгаварэньні. Адзін з брыгадзіраў прывёў даволі цікавую ілюстрацыю, як ён у прымацованай краме зрабіў заказ, і як яго тут-жа

стаяўшыя ў чарзе абвінавацілі ў пратэкцыянізьме, у кумаўстве; амаль усе крычалі: „што за прывілей, мы таксама захочам зрабіць заказ“. Як відаць са слоў гэтага „каапэрацыйнага рэвалюцыянэра“, яго не зацягнулі ў праўленьне толькі таму, што ён перайшоў у „контр-наступленьне“ і пусьціў у ход усе свае „аратарскія здольнасьці“. Такое-ж становішча з папярэднімі заказамі ў цэрабкопаўскіх крамах: там вісяць плякаты-заказы амаль па два гады... Усё-ж вопыт заказаў і нават дастаўкі тавараў, праўда ў нязначнай колькасьці крамаў, ўвайшоў у звычай. Напрыклад, малако дастаўляецца на дом толькі з 3 крамаў, а раздаецца больш як з 30. Вельмі часта малако дастаўляюць менш колькасьці выдадзеных абанэмэнтаў.

Зусім нічога ня зроблена ў сэнсе арганізацыі развознага гандлю, ня гледзячы на вызначаны для гэтага тэрмін (1/XI 1929 г.). Пакуль па горадзе „фігуруе“ адзін фургон з газаю, ды і той працуе на процантах.

Дрэнная справа з сартаваньнем фруктаў і гародніны: на складах эканомяць за кошт штату, а ў крамах гэтаю справаю займаюцца прадаўцы за кошт павялічэньня чаргі і складаньня актаў.

Вызначаны па пляне „двохтыднёвік чыстаты“ не праведзены; большасьць крам яшчэ не забясьпечана скрынкамі для ўпаковачнай паперы, тыповымі прэйскурантамі; маецца вялікі недахоп у прыладах для разважваньня; заціхла справа з рулоннымі касамі, узоры якіх ўжо больш 2 месяцаў чакаюцца з Масквы.

Выступаўшыя па дакладзе ўпаўнаважаныя гаварылі аб тым, што рацмінімум праводзіцца недастаткова інтэнсыўна. Слаба ўцягнуты ў гэту справу працаўнікі крам, загадчыкі не адчуваюць адказнасьці, а праўленьне недастаткова патрабавальна да загадчыкаў; апрача таго, асабліва падкрэсьлівалі звычайна слабы ўдзел у правядзеньні рацмінімуму каап. камісій, прымацованых да крам. Апрача вылучаных брыгад з каап. актыву, гэтаю справаю ніхто ня цікавіўся. Каап. грамадзкасьць вакол правядзеньня рац. мінімуму не мабілізавана; напрыклад, ніколькі не палепшылася справа з вывешваньнем цэн на тавары, нават стала горш. Сыстэма папярэдніх заказаў не папулярызуецца; дрэнна справа з перамяшчэньнем прадаўцоў пры вялікіх чаргах з аднаго аддзяленьня ў другое. Яшчэ недастаткова мабілізавана грмамадзкая думка вакол чаргі. Чаргі яшчэ ў многіх крамах працягваюць існаваць, і многія працаўнікі крам і загадчыкі чаргу ў 15-20 чалавек „ня лічаць за чаргу“.

Неабходна прыкласьці ўсе сілы да правядзеньня рацыяналізатарскага мінімуму, да зьнішчэньня ўсіх недахопаў.

---

**Янук Трактавей**

# Задача з трыма вядомымі

Давялося мне аднаго разу, каля аднае крамы, пачуць такую прыказку: „крама ад крамы бывае далёка, а крамар ад крамара--не“.

У чым справа? Няўжо гэта так?—падумаў я. Пачаў глыбей ўдумвацца, і ў мяне вышла, што яно часам і ў сапраўднасьці бывае гэтак.

Ня верыце? Папрабуем давесьці фактамі. А раней, чым давесьці, складзем задачку з трыма вядомымі (у процілегласьць матэматыцы, дзе разьвязваецца задача з невядомымі).

Першае вядомае—Цімкавіцкая крама, Капыльскага раёну, з крамаром Цярэшкіным; другое вядомае—Апалінская крама, Грэскага раёну; з крамаром Ярошыкам Якубам і трэцяе вядомае—Бранчыцкая крама, Старобінскага раёну, з крамаром Казьленка Цімохам. Цяпер яны ўжо нам вядомы. Бязумоўна, яны, гэтыя крамы, далёка

адна ад другой, а вось крамары па працы зусім блізкі. Ня верыце? Дык прачытайце і пабачыце.

Пачнём з апошняга — з Казьленкі Цімоха. Ён крамар—умее тавары выдаваць, грошы атрымліваць і нават адразу дзесяць пудоў можа зважыць. Вы скажаце, што тут дзіўнага—кожны чалавек, які ведае, як хадзіць каля вагі, можа зважыць столькі. Але от зважыць 10 пуд. і 30 ф. так, каб у цябе роўненька, роўненька яшчэ крыху і з недавагаю атрымалася 10 пудоў, можа ня кожны. А Казьленку гэта—што плюнуць, у яго так, і толькі так, а ня іначай выходзіць.Ды ня толькі гэта з жытам так выходзіць. Не, верце мне, што не. Чалавек практыкуецца да пары, да часу ня толькі на жыце, а і на другіх таварах. Вось, скажам пра лён. Прынясеце яму 5 кілёграмаў, а ён скажа:

— Нічога падобнага. Тут 5-ці кілёграмаў няма, тут толькі 2-і выдасьць вам квіток на гэту суму. Вы можа скажаце, што няпраўда. Ну, дык вы-бачайце: сам міліцыянэр Худалей сьведкаю быў. От бок чалавек гэты Казьленка, нават і пасьля міліцыянэра ня справіўся. Цьвёрды чалавек, адным словам! На сваёй, як кажуць, пляцформе стаіць.

Якія-ж дачыненьні мае да Казьленкі Цімоха Ярошык Якуб ці Цярэшкін? Няхай Казьленка ўжо бярэ, ня ўсе-ж такія людзі як ён. Канешна, ня ўсе. У гэтым ніхто не супярэчыць. А вось Ярошык ці Цярэшкін—нешта роднае маюць. Мо' яны век і ў вочы адзін другага ня бачылі, а ўсё-ж нешта блізкае ў іх адчуваецца. Ну, вось возьмем Ярошыка. І хлопец, як хлопец, і галаву мае, ды яшчэ і якую! Прышлюць яму ў краму пшанічную муку. Ну, а ён хлопец ня дзівак. Прыслалі, думае, добра. Значыць прадаваць будзем... Толькі не пшанічную, а сваю—просты размол. Навошта пшанічная дарма па людзёх чужых прападаць будзе?

Падумаеце, можа, толькі з мукою так? Не, ён і з матэрыяй ня лепш абыходзіцца. Пайніку—3 мэтры, а сабе—25. На тое-ж ён і пайнік, каб яму 3, а я, крамар, каб мне 25 мэтраў, разважае Ярошык.

А цукер? Цукер у яго таксама па разьліку. Рэч салодкая. І глядзіць, каб каму добра зрабіць: каму 1 кілё, каму 2, а каму і 3. Разумная галава!..

Ніхто не супярэчыць, што разумная, а хіба-ж у Цярэшкіна, крамара Цімкавіцкай каапэрацыі, дурнейшая? Нікольki. От вазьмеце-ж яго. Напрыклад, прывязуць падэшву ў краму. Падэшву патрэбна раздаць, як прэмію за хлебазагатоўку. Вось в. Кукавічы здала акуратна і прыходзіць за падэшвай. Атрымліваецца такі дыялёг:

— Дзядзька Цярэшкін, *казалі*, што падэшву прывезлі. Мо' нашай вёсцы дасьце прэмію.

— Так, ведаеце, падэшва ёсьць, але... вам патрэбна будзе ў панядзелак зьявіцца.

У панядзелак размова:

— Дзядзька Цярэшкін, дайце падэшву (прэмію).

— Знаеце, дарагія, чарга не падышла да вас яшчэ, прыходзьце ў пятніцу.

Гаворка ў пятніцу:

— Дзядзька Цярэшкін, дайце прэмію.

— Падэшву? Сёньня ня ваш дзень. Сёньня атрымлівае пасёлак Каралін. Прыходзьце ў панядзелак. Яшчэ-ж унь-тады даўно гаварыў вам—панядзелак...

Размова ў другі панядзелак.

— Сёньня другая вёска, а ня ваша. Ня дурыце галавы, ідзеце ў праўленьне... Цярэшкін пачынае зноў спачатку.

Мо' хто скажа—ну што-ж, чаму не пагаварыць з чалавекам? Гаварыць наогул прыемна...

Гаварыць мо'яно і нішто сабе, але вось за 14 кілёмэтраў хадзіць кожны дзень таксама ня со-ла-ад-ка-а...

Але ўсё-ж такі дачакаліся. Пачалася выдача і нам. Каму падэшву, каму сьцельку, каму абрэзкі. З каго 2 р. 30, з каго 2 р. 50, з каго 2 р. 45. Розна, бо і падэшва розная. Гаварылі аб гэтым нямала. Аднак, адзін дзядзька з Кукавіч не паверыў.

— Ня можа, кажа, быць, каб з мяне 2 р. 45.

— То, што я цябе абважваю, думаеш?

— Нічога я ня думаю, а прашу праверыць.

Справа пайшла нанова. Перавэжылі. Выйшла ўсяго на 1 р. 31 к., і дзядзька гэты самы Цярэшкін выняў здачу і аддаў назад і каб пачырванеў хаця крыху, ня так было-б крыўдна, а то... ані. Ды чаго там чырванець, каб гэта першы раз ці што, а то...

А то што і гаварыць. Здаецца, задачка разьвязана, можа хто возьмецца супярэчыць у няправільнасьці яе разьвязаньня?

... Дык вось, бачыце, цяпер—некаторыя каапэратывы адзін ад аднаго далёка? Далёка. Крамары адзін ад аднаго блізка? Блізка. Ня так, каб ужо вельмі блізка, а чуць, чуць, як кажуць, адзін аднаму з радні, хоць яны і ня бачыліся і можа не пабачацца ніколі.

С. К—іх

# Людзі фармальнае працы

Ужо скора год, як на тэрыторы Траскоўскага с/с, Заслаўскага раёну, пабудован даволі буйны малочны завод, які пры поўным сканчэньні і належным абсталяваньні будзе каштаваць каля 15000 рублёў. Завод можа вытрымліваць нагрузку малака ў сярэднім 6—7 тысяч літраў у суткі.

Раён дзейнасьці заводу даволі значны. Ён ахапляе 47 насельных пунктаў з лікам да тысячы сялянскіх гаспадарак, у якіх налічваецца да 1500 кароў.

Але-ж адна справа ахапляць, вербаваць пайшчыкаў, а другая—весьці сярод іх працу. Трэба сказаць, што грамадзкая праца сярод пайшчыкаў з боку праўленьня заводу зусім не вядзецца. Як вынік гэтага, завод знаходзіцца без нагрузкі, амаль пустуе. У апошнія месяцы (лістапад—сьнежань) ад усяго раёну дзейнасьці—ад 16 зьліўных пунктаў, ад тысячы гаспадарак—завод атрымлівае ў сярэднім 200-250 літраў малака ў дзень. І вось дзеля гэтых літраў стаіць вялізны будынак—завод, дзеля гэтых літраў расстаўлены па раёне шэсьць сэпаратараў, з-за гэтых літраў утрымоўваецца цэлы штат (чалавек 15) служачых. Наогул кажучы, выдаткі вялікія, а прыбыткі малыя—няма малака.

Бязумоўна, гэту да зьдзіўленьня малую лічбу літраў малака можна часткова тлумачыць самой парой году: лістапад і сьнежань—гэта такі час, калі ў большасьці каровы ня дояцца зусім, ды і наогул у гэтыя месяцы малако ў кароў убывае. Але гэта ўсё-ж не зьяўляецца галоўным адказам такога значнага адліву малака.

Галоўную прычыну трэба шукаць глыбей. Яе трэба шукаць у самой працы праўленьня заводу. Трэба сказаць, што праўленьне заводу працуе толькі фармальна. Уся праца заводу заключаецца ў тым, што праўленьне атрымоўвае ад пайшчыкаў малако, дае ім за яго разрахунак і, перапрацаваўшы малако на масла, адвозіць яго у горад. А што датычыцца арганізацыйнай і культурна-асьветнай працы сярод сваіх пайшчыкаў, дык праўленьне яе не вядзе. Сходы пайшчыкаў ніякія не праводзяцца. Да гэтага часу пайшчыкі ня ведаюць сваіх абавязкаў, ня ведаюць, якой мэты трымаецца завод, якая мэта гэтага каштоўнага калектыву. На завод пайшчыкі глядзяць не як на калектыўную справу, якая спрыяе падняцьцю сельскай гаспадаркі, і, у прыватнасьці, жывёлагадоўлі, а як на сваю ўласнасьць. У кожнага пайшчыка адносіны да арцелі такія: калі сёньня мне выгодна несьці малако—нясу, а заўтра не—не панясу. Пайшчык ня бачыць вялікай будучыны для гэтага калектыву.

У зьвязку з такой працай праўленьня, у зьвязку з такім разуменьнем мэты заводу большасьць малака

пайшчыкі, у розным выглядзе, збываюць на прыватным рынку. Некаторыя пайшчыкі проста так ня хочуць несьці—спажываюць самі.

І, бязумоўна, калі ў далейшым праўленьне заводу будзе так фармальна адносіцца да сваіх абавязкаў, калі ў далейшым не разгорне сярод сваіх пайшчыкаў шырока грамадзка-выхаваўчую працу, дык завод застанецца без нагрузкі і надалей. Ён ня вытрымае тых выдаткаў, якія зараз мае, і будзе прымушан у лепшым выпадку спыніць працу, што, бязумоўна, зробіць вялікі падрыў у разьвіцьці малочнае справы.

На гэта зьявішча *трэба своечасова* зьвярнуць увагу Менскаму акруговаму малжыўсаюзу, які, трэба сказаць, ня сур'ёзна адносіцца да такіх зьяў. А можа ён ня бачыць тае прычыны, якая служыць тормазам, перагародкай прыліву малака ў нашыя малочныя арцелі і заводы?

---

**Макар Валацуга**

# Па каапэрацыйных ухабах

На беднага Макара ўсе каапэрацыйныя непарадкі сыплюцца.
(Мая скарга)

(*Артыкул для крам, крамараў і другіх каап. шышак*).

## 1. Для крам

Дзе 7 дзяцей, там нянька бяз носу, або дзе 4 каап. аддзяленьні, там частка пайнікаў без тавару.

Ітак я (Макар Валацуга) апошні раз вышаў з Судакоўскай крамы, Узьдзенскага раёну. Вышаў і мысьлю: куды-б тут далей пайсьці, да каго-б зноў завярнуць? Эт, думаю, пайду пад Менск. Сьвет, думаю, не бяз добрых людзей, а каапэратывы не бяз дрэнных спраў. Нарвецца што-небудзь. Зваліцца якая-небудзь шышка на Макараву галаву.

Іду і курс проста пад Сьмілавічы трымаю. Падыходжу пад в. Анчыцы і бачу каля Анчыц людзей (ды яшчэ ў будні дзень), па дарогах яны ходзяць, так і ходзяць, нібы кірмаш які. Што за ліха? думаю. Дай запытаю, мысьлю.

— Дзіндобры!—кажу.

— Ня вельмі—адказваюць.

— Чаму?—пытаю.

— Каапэратыву свайго ня знойдзем ніяк—скардзяцца.

— А вы скуль?—пытае другі.

— З вёскі Лебядзінец, таварыш.

— А, дрэнна справа. Раскажэце драбней.

— Драбней, таварыш, яно будзе так: у нас, у Анчыцах, крама ёсьць. У краме 4 аддзяленьні. У аддзяленьнях тавары. Загадчык крамы кажа, што нашы тавары ў краме № 3, за кілёмэтраў 5 адсюль.

Прыходзім туды, а там крамар кажа:

— Ня дурэце галавы. Вашы тавары ў краме №... №... №... адным словам, ідзеце ў № 2. Я на вас тавары не атрымліваў Нічога ня ведаю.

Прыходзім у № 2. Там гавораць:

— Даўно вам сказалі ўжо, што вашы тавары ў нумары трэцім. Ідзеце туды.

Дык ось, чалавеча, усё ходзім, усё шукаем.

— Шукайце, кажу, і знойдзеце. Ды паможа вам ў гэтым наша самакрытыка і крытыка. А я, з свайго боку, чым магу, заўжды дапамагаць буду, сказаў я ім і пашоў далей пад Менск. Падыходжу ўжо аж пад Самахвалавічы, пад Гарадзецкае спаж. таварыства. Тут шум.

— Што такое?—цікаўлюся.

— Табе якое дзела?—Валі сваім шляхам.

— Брацішкі, чаго крычыце? Я-ж не каапэратар які, я-ж не бюракрат.

Расскажэце, ў чым дзела. Будзем разам вырашаць справы.

— Дзела ў тым, што крыўдна, таварыш. Уй, як крыўдна! Мы от спакон веку, можна сказаць, пайнікамі Гарадзецкага спаж. т-ва.

— Ну, дык у чым-жа справа?

— Пачакай! Справа ў тым, што гоняць цяпер нас сілком у Старасельскае спаж. т-ва, Заслаўскага раёну.

— Дык ці-ж вам ня ўсёроўна?

„Дык от тое-ж, што ня ўсёроўна. Каб было ўсёроўна, хто-б крычаў?.. Мы былі ад крамы 2 кілёмэтры, а цяпер за 7 гоняць.

Так, падумаў я. Усяк бывае на вяку. За каапэратарскай галавой і пайнікавым нагам бывае непакой.

## 2. Для крамараў

Колькі на яго ні крычы, а ён на радню глядзіць.

У Крайскай краме, што на Меншчыне, за прылаўкам крамар Фішар сядзіць. Ня зусім ўжо сядзіць. Бегае таксама за прылаўкам, бо людзі-ж прыходзяць. Аднаму тутун патрэбен, другому—соль, ніткі, трэцяму—тое сёе, адным словам мала што чалавеку-пайніку ў сваёй краме патрэбна.

От захочацца табе курыць да „адчаяньня“. Курыць простай махоркі. Прыходзіш да Фішара.

— Асьмушку „Чырвонай Рыбкі“.

— Няма.

— Ды як няма? Я-ж пайнік. Ды і ня браў яшчэ.

— Дык людзі бралі. Мала што ты ня браў.

Голас з боку:—Але, чалавеча, людзі бралі. Праўду ён кажа. Калі хочаце так ужо курыць, дык зайдзеце да майго сына Кірыка Сяргея. Яму Фішар аж 8 асьмушак даў, адным словам цэлы фунт. Яны, бачыце, добра сябруюць. Дык-ось, у майго Сяргея 8 асьмушак, а ён-жа ня курыць сам. Дык, можа, і дасьць вам. Нашто дарма прападаць дабро будзе?

— Дай ты рады—падумаў я. Прыстаю як смала да Фішара, калі ў таго няма. Стаю гэта я, а курыць так і смажыць. Прыходзіць нейкая цётка.

— Як-бы ў вас, таварыш прыказчык, нітак чырвоных атрымаць.

— Толькі на сыравіну можнаі,— заяўляе Фішар. А я яшчэ ня выходжу, наглядаю. Прыходзіць суседка Фішара.

— Фішарка, нітачак як-небудзь там...

Фішар дастае ніткі і дае суседцы. Суседка дае Фішару грошы (стараючыся, каб ніхто ня бачыў).

От, думаю, сьвет. От, думаю, людзі. Колькі крамара ні кармі, а ён усёроўна, як Мірончык з крамы № 22 Стайкаўскага спаж. т-ва, што на Аршанчыне, на сваякоў глядзіць. Нельга сказаць, каб толькі на сваякоў. Ён чалавек крыху большага маштабу, ня так ужо вузкі „індывідуал“. Ён яшчэ на ўвазе сваю вёску мае. Прывязуць тавар—свая вёска ў першую чаргу. Прыдуць другія пайнікі,—Мірончык у адказ:

— Тавараў нет. Ужо раздаў—і далей маўчок. Хоць у званы бі, хоць з гармат страляй. Адказу не атрымаеш.

Пайнік—да загадчыка. Загадчык у адказ.

— Мірончык тавар атрымаў.

— Мы без цябе ведаем, што ён атрымаў, але вось паспрабуй убачыць, калі ён іх раздаў.

— Гэта ўжо другое дзела.

## 3. Для каап. шышак.

І ў чыстай галаве каап. шышкі бываюць брудныя думкі.

Добры чалавек старшыня Курыцкага спаж. т-ва на Мазыршчыне. Сказаць добры—мала. Адным словам, чалавек з сьмякалкай. Любіць, каб усякія тавары ў яго крамах былі. Ну, якія хочаш. Хочаш гарбузоў—калі ласка. Старшыня 40 пуд. закупіў у вёску гарбузоў... Ляжаць гарбузы дзень, ляжаць два. Тыдзень ляжаць, два ляжаць. Гнісьці пачалі. Прыказчык хвалюецца. Народнае дабро дарма гіне. Старшыня загад па краме дае;

— Гарбузы закапаць у зямлю і сьляды замесьці.

— А грошы?..

— Грошы? Грошы—рэч нажыўная. Прапалі на гарбузох, нарастуць на падэшве—тавар ходкі.

Такім чынам, няшчасныя гарбузы ноччу пахавалі ў яму. Зрабілі ім „брацкую магілу“, а падэшва замэст іх пашла ўгару. Падвысілася ў цане і ганарыцца:

— Каму, думае, хаўтуры, а мне павага. Даражэю... А ўсё дзякуючы старшыням розным.

О, гэтыя старшыні. Добра ім жывецца. Што хочуць, тое і робяць. Каму хочаш, таму тавары даюць, вядома старшыня. От, напрыклад, будзьце вы хто старшынёю Лядзенскага спаж. т-ва на Аршаншчыне і атрымалі сукно, скажам. Вы ўжо як старшыня гаворыце:—сукно для сяброў камуны. Прыходзіць да вас гэты-ж самы сябра з камуны з пасьведчаньнем за сукном, а вы прымаеце разумны твар і кажаце:

— У мяне такіх камунараў поўны раён... не даю сукна.

О, што значыць быць каапэрацыйнай шышкай. Ніхто табе ў лоб ня стукне, а ты каму хочаш...

ДАДАТАК

### 4. Для каап. кулака.

Каму кулак, а вам,
дзяўчаты, дзядзенька.

Скажам, ідзе хлебазагатоўка. Матэрыю даюць на хлеб. А ў Крука Аляксея, у Грабёнскім сельсавеце, Чэрвенскага раёну, хлеба колькі хочаш (ды чаму ня будзе ў яго хлеб—ён-жа нават і падатак, кажуць, індывідуальны плоціць). Крук Аляксей за хлеб—ды ў Чэрвень. Купіў, значыць, матэрыі. Справа ўвосень была. А дзяўчаты з вёскі Плявічы аж ня ведаюць, што рабіць за матэрыю. А Крук пакручвае яе ды хваліць. Дзяўчаты да яго:

— Дзядзенька, прадай.

— Не прадаю на грошы. На адработак можна.

— А на які?

— Бульбу пакапайце мне, дык я і заплачу матэрыяй.

— Згодны, дзядзенька,—кажуць дзяўчаты.

І закіпела праца на палёх Крука, і пашлі дзяўчаты дзень за днём у „заработкі“. А Крук ходзіць па полі ды цешыцца. Ходзіць і разважае: добра таму жывецца, хто з хлябцом жыве.

**Пралетарыят не баіцца прызнаць, што ў рэвалюцыі яго тое вышла добра, а тое дрэнна. Усе рэвалюцыйныя партыі, якія да гэтых часоў гінулі, гінулі таму, што зазнаваліся і ня ўмелі бачыць, у чым сіла, яны баяліся гаварыць аб сваіх слабасьцях. А мы не загінем таму, што не баімся гаварыць пра свае слабасьці, а навучымся перамагаць слабасьці. (Ленін)**

# У ДАПАМОГУ НАШАМУ КАРЭСПАНДЭНТУ

## Як і што пісаць пра сацыялістычнае спаборніцтва ў спажыв. каапэрацыі

Спаборніцтва толькі тады робіцца сацыялістычным, калі ў ім прымаюць сапраўдны ўдзел сапраўдныя масы. На гэта і не павінны забывацца рабселькоры, калі яны пішуць пра сацыялістычнае спаборніцтва.

Пішучы пра выкананьне якога-небудзь пункту ўмовы, як аб дасягненьні, рабселькору раней за ўсё трэба сказаць: ці зьявілася яно вынікам добра праробленӑй масавӑй працы, ці проста прышло ў парадку сама цёку, толькі таму што кантрольная лічба была ўзята вельмі нязначнаю?

Наогул патрэбна ўхіляцца неабгрунтаваных паказальнікаў. Так, рост (нават значны) зваротаў можа быць аднесены не за кошт спаборніцтва, а за кошт лепшага таваразабясьпечаньня ў дадзеным месяцы ці за кошт росту часткі хутказварочваемых, або каштоўных тавараў. Рост, такім чынам, зможа пайсьці за кошт узмоцненага продажу гарэлкі ці мануфактуры, тады спаборніцтва тут ня пры чым.

Таксама выкананьне пункту па каапэраваньню можа зьявіцца вынікам павялічэньня забясьпечаньня пайшчыкаў, але ня вынікам масавае працы ў парадку спаборніцтва. Таму цыфру каапэраваньня заўсёды патрэбна падмацоўваць паказаньнем, за кошт чаго яно ідзе.

Мала гэтага, дасягненьні па каапэраваньню яшчэ нічога ня кажуць чытачу. Рабселькор павінен паведаміць, за лік якіх слаёў насельніцтва выканан гэты пункт (сябры прафсаюзаў, жанчыны, моладзь, розныя слаі вёскі). Пішучы аб паянакапленьні, таксама нельга ні ў якім выпадку забывацца паведаміць, як выконваюцца паявыя абавязкі рознымі групамі пайшчыкаў. У супрацiўным выпадку голая цыфра агульнага каапэраваньня і паянакапленьня нічога ня варта.

Таксама нічога ня варта агульная цыфра сабраных укладаў. Трэба пісаць, за кошт чаго павялічыліся ўклады, ці шмат укладчыкаў, ці няма сярод укладаў вельмі буйных сум, якія належаць непрацоўнаму элемэнту.

Асабліва нельга дапушчаць казённа-аптымістычнага апісаньня ходу сацыялістычнага спаборніцтва. Нельга бачыць толькі ўсё добрае, калі ў гэтым каапэратыве ёсьць і некаторыя ненармальнасьці. Бывалі такія выпадкі, калі селькор прысылаў допіс аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва ў тым ці іншым каапэратыве ў вельмі выхваляючым тоне. А праз месяц ён сам пісаў, што першы допіс быў ня зусім правільны, што становішча абстаяла і абстаіць куды горш, чым было напісана, што ён добра тады не прасачыў ходу спаборніцтва. Вось гэтага асабліва трэба ўхіляцца нашым рабселькорам. Кожны допіс аб ходзе сацыялістычнага спаборніцтва, аб працы каапэратыву павінен быць праверан, каб не зрабіць памылак.

Пісаць пра спаборніцтва трэба лепш за ўсё, увязваючы з другою тэмаю. Так, напрыклад, пішучы пра хлебазагатоўкі, пра распаўсюджваньне 3-е пазыкі індустрыялізацыі ў вёсцы, патрэбна зазначыць, як скарыстоўваецца пры гэтым мэтад сацыялістычнага спаборніцтва. Патрэбна адзначыць прозьвішчы лепшых удзельнікаў, каб пра іх ведалі і бралі прыклад другія. За лічбамі дасягненьняў і хібаў нельга забывацца на жывых людзей, арганізатараў і вінавайцаў іх (лічбаў).

Важнейшымі тэмамі, зьвязанымі з спаборніцтвам спажывецкай каапэрацыі, зараз зьяўляюцца: у горадзе—абслугоўваньне спажыўца (асабліва рабочага) крамачнаю і культурна-бытавою сеткаю; у вёсцы—хлебазагатоўкі, удзел у калектывізацыі, праца з беднатою, 3-я пазыка, культурна-бытавое абслугоўваньне.

Рэдакцыя спадзяецца, што зараз, калі сацыялістычнае спаборніцтва павінна цікавіць кожнага сьвядомага грамадзяніна, наш каапэрацыйны актыў павінен у першую чаргу прасачыць, як ідзе спаборніцтва ў яго каапэрацыйнай краме, а пасьля ўключыць у свой абавязак напісаць у свой часопіс аб дрэнных ці добрых бакох працы. Будзе добрае—шмат хто запазычыць з гэтае працы, дрэннае—будзе ўхіляцца, каб не рабіць памылак.

Агульнымі сіламі будзем адзначаць хібы, адзначаць дасягненьні ў жыцьці і працы каапэрацыі. Рэдакцыя чакае матар'ялаў.

---

**Павядзём рашучы наступ на капіталістычныя формы вядзеньня сельскае гаспадаркі. Праз актыўны ўдзел каапэрацыйных працаўнікоў, пайшчыкаў-актывістых будзем змагацца за выкананьне дырэктыў партыі і ўлады—за суцэльную калектывізацыю краіны**

---

# БІБЛІАГРАФІЯ

**М. Пілько.—„Шкоднікі зерня і змаганьне з імі“. Сялянская бібліатэка. Выданьне Б.Д.В. Менск. 1929 г. Стар. 24,** *цана 8 кап.*

Якую вялікую шкоднасьць робяць гаспадарцы шкоднікі зерня, пра гэта ведае кожны селянін-гаспадар. Але як весьці з імі змаганьне, як зьнішчаць гэтых шкоднікаў, пра гэта ведае мала хто з сялян. Адзін у селяніна ратунак ад гэтых шкоднікаў—гэта розныя замовы-забабоны. А зерневых шкоднікаў так шмат, што калі не змагацца з імі, дык яны робяць вялікую шкоду.

Супроць зерневых шкоднікаў і ў замену замовам зьяўляецца добрым барацьбітом кніжачка М. Пілько. У ёй добра сказана, як абараніць зерне ад розных шкоднікаў. У гаспадарцы селяніна шкоднікаў вельмі шмат. Можна сустрэць: зерневую начніцу, сьвірнавы даўганосік, мучны хрушчак, збожжавы тачыльнік, сьвірнавую моль, мышэй і шмат інш. Супроць усіх гэтых шкоднікаў ёсьць тыя ці іншыя спосабы барацьбы, аб якіх і рассказваецца ў рэцэнзуемай намі кніжачцы. Яны (спосабы) вельмі просты, і імі можа карыстацца кожны селянін. Толькі спосаб супроць мышэй і пацукоў, аб якім гаворыцца у кніжачцы, трохі цяжэйшы, і ня кожны селянін зможа скарыстаць яго. Дзеля таго, каб ім карыстацца, трэба шмат тэхнічных і хэмічных прылад. Але пры жаданьні і гэтым спосабам можна карыстацца—аўтар дасканала яго растлумачвае.

У барацьбе са шкоднікамі кніжацка тав. Пілько дае канкрэтныя парады змаганьня заместа адцягненых рэлігійных замоваў. Набыць яе неабходна кожнаму гаспадару.

**Ш. М.**

---

**М. Мойшеева—наша торговля в пятилетке. Выданьне ГИЗ'а, тыраж 50,000 стар. 32,** *цана 8 к., Масква, 1929 г.*

Пытаньні пяцігадовага пляну ўсё больш і больш пачынаюць цікавіць працоўныя масы. Ідучы насустрач масаваму чытачу і дзеля лепшага растлумачэньня і папулярызацыі гэтае важнае задачы—пяцігодкі—мы маем цэлы шэраг кніжачак па гэтаму пытаньню, выдадзеных рознымі выдавецтвамі.

Адну такую кніжачку з сэрыі „Наше хозяйство через 5 лет“ мы сёньня і радзім прачытаць усім тым, хто хоць трохі цікавіцца будаўніцтвам нашае краіны, хто хоць трохі цікавіцца, пэрспэктывамі далейшага.

Напісана кніжка вельмі сьцісла, але зразумела. Тут няма ніякага распыленьня ва ўсе бакі, а ўзята адна галіна нашае будоўлі—гандаль, і аб ім увесь час ідзе гутарка. Для большае яскравасьці і ўяўленьня матар'ял падмацоўваецца лічбамі. Так, агульныя лічбы росту таваразвароту маюць наступны выгляд: у 1927/28 г.—24 мільярды рублёў, з якіх на долю дзярж. гандлю і каапэрацыі прыходзіцца 21 мільярд, а прыватніку—3 мільярды; у 1928/29 г.—29 мільярдаў, з якіх прыватніку—3 мільярды, а дзярж. гандлю і каапэрацыі—26 мільярдаў, а ўжо ў 1932/33 годзе зварот дасягне 58 мільярдаў, што складае ў параўнаньні з мінулым годам павялічэньне ў два разы, прыватнік будзе мець зварот толькі 2 мільярды.

Уся кніжачка падзелена на шэраг разьдзелаў, у якіх канкрэтна паказваецца, якое павялічэньне ў звароце будзе мець кожная галіна гандлю, як-та: хлеб, масла, мяса, малако і г. д.

Адначасова зазначаецца, што сучасны ўдзел СССР у сусьветным гандлі ў параўнаньні з даваенным зваротам зьменшыўся з 3,4% да 1,4%, а да канца пяцігодкі гэты ўдзел павінен узрасьці да 3%.

Наогул кажучы пра кніжачку, яна вельмі карысна ў сучасны момант, падаючы ў зразумелай форме тыя важныя задачы і лічбы, якімі закончыць СССР сваю першую пяцігодку.

Яна прадстаўляе сабою цікавасьць як для працаўніка, зьвязанага непасрэдна з гандлем, так і радавога чытача, які цікавіцца тым, што творыцца навакол.

Па цане сваёй кніжку зможа купіць кожны. **А. В-кі.**

---

**П. Жарын „Сібірка“, „Сялянская бібліатэка“ Б. Д. В.– Менск, 1929 г. стар. 36,** *цана 10 кап.*

Сялянская гаспадарка церпіць вельмі вялікую страту ад розных заразных хвароб, якія нападаюць на жывёлу. Няма тае вясны, лета, каб у тэй ці іншай вёсцы не прапала якая-небудзь жывёла—конь ці карова. І селянін глядзіць на гэту бяду часта, як на прысуд ад бога, і ў вельмі рэдкіх выпадках зварочваецца да вэтэрынара.

Але, дзеля таго, каб ня было гэтай бяды, каб папярэдзіць тую ці іншую заразную хваробу, селянін павінен мець нейкія веды, быць знаёмым з тэй ці іншай хваробай.

Кніжачка Ж а р ы н а „Сібірка“ як раз і ёсьць адна з папулярных кніжак, праз якую селянін можа азнаёміцца з надзвычайна небясьпечнай для жывёлы хваробай-сібіркай. Праз гэту кніжачку ўсякі, хоць трохі пісьменны, селянін можа даведацца, як і дзе гэта небясьпечная хвароба ўзьнікае, як яна распаўсюджваецца, і якія пер-

шыя прыметы эьяўляюцца ў скаціны пры захварэньні сібіркай.

У кніжачцы ёсьць спэцыяльныя аддзелы, як весьці барацьбу з сібіркай, як трэба прыбіраць трупы загінуўшай ад сібіркі жывёлы, дзе і як трэба рабіць магілкі для жывёлы, як ачышчаць заражанае памяшканьне і інш. Усё гэта так проста і зразумела складзена, што кожны селянін, прачытаўшы гэту кніжачку, зможа самастойна папярэдзіць сваю скаціну ад гэтай заразнай хваробы.

Акрамя ўсяго гэтага, у кніжачцы яшчэ маецца адзін аддзел, у якім тлумачыцца, як трэба рабіць жывёле прышчэпку ад тае ці іншай хваробы, каб папярэдзіць апошнюю.

Бязумоўна, кніжачка гэта для селяніна можа быць вялікім дапаможнікам у справе вядзеньня гаспадаркі. Яе неабходна больш прасунуць у сялянскія масы. **Б. Р.**

---

Л. Парфяновіч. **„Самі вырошчвайце гароднае насеньне".Сялянская бібліатэка. Выданьне Б. Д. В., стар. 32,** *цана 10 кап.*

У справе павялічэньня прадукцыйнасьці нашае гаспадаркі гародніна, як адна з галін сельска-гаспадарчых культур, займае і павінна займаць пачэснае месца. Кожны селянін, кожная гаспадарка займаецца справай гародніны. Але-ж, на жаль, вельмі рэдка дзе людзі, якія займаюцца гароднінай, выкарыстоўваюць агранамічна-навуковыя парады для гэтае справы. Праўда, у нас да гэтага часу ў гэтай галіне гаспадаркі ня было такой шырокай, папулярнай літаратуры, якую-б мог набыць кожны гаспадар. Кніжачка „Самі вырошчвайце гароднае насеньне" Парфяновіча павінна ў гэтай галіне адыграць дадатную ролю.

Па свайму папулярнаму выкладаньню, па сваёй канкрэтнасьці—яскраваму тлумачэньню і па сваёй таннасьці яна можа быць даступна кожнаму, хоць трохі пісьменнаму селяніну. Пры дапамозе гэтай кніжачкі селянін можа навучыцца, як і дзе, на якой глебе разводзіць тую ці іншую гародную культуру. Пры дапамозе гэтай кніжачкі, пры сур'ёзнай да яе ўважлівасьці, селянін зможа самастойна падняць культуру свайго гароду да максымальнай прыбытковасьці

У кніжачцы можна знайсьці добрае тлумачэньне пра вырошчваньне насеньня кожнае гародніны ў паасобку, як, напрыклад: гуркоў, капусты, рэпы, буракоў, моркаўкі, цыкорыі і інш., якое насеньне трэба лічыць добрым, як адсартоўваць гэтыя добрыя гатункі; таксама, як трэба даглядаць гародніну пры яе росьце, потым, як зьбіраць яе з градаў, у які месцы і на які час можна захоўваць тую ці іншую гародніну. Усё гэта добра растлумачана ў гэтай невялічкай кніжачцы.

Гэту кніжачку трэба набыць кожнай хаце-чытальні, сельска-гаспадарчаму гуртку, кожнаму селяніну. **Сымон Буры.**

---

**„Шляхі калектывізацыі". Часопіс калектывізацыі, вытворчага с.-г. каапэраваньня і агранамізацыі насельніцтва. Выданьне Наркамзему і Белкалгассаюзу БССР, № 5, лістапад 1929 г.**

Задачу адбіцьця шляхоў калектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР, мабілізаваньня бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шлях сацыяльна-тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы адзначаны нумар часопісу „Шляхі калектывізацыі" выконвае ўступным артыкулам тав. Рачыцкага аб новым зямельным кодэксе.

Далей ідзе шэраг артыкулаў па калгаснаму будаўніцтву ў акругах і раёнах, артыкулы аб недахопах у калгасным будаўніцтве і аб прасьцейшых мерапрыемствах, якія неабходна як найхутчэй ажыцьцявіць у справе сацыялістычнае перабудовы сельскае гаспадаркі. У артыкулах асьвятляецца пытаньне аб вялікай патрэбнасьці пасылкі рабочых у калгасы і камуны, каб забясьпечыць пралетарскі напрамак у калгасным руху.

У часопісе знайшло сваё разьвязваньне пытаньне аб увядзеньні дыфэрэнцыяванага паю ў калгасах, з мэтай поўнага ўцягненьня сродкаў насельніцтва ў калгасы. У артыкуле „Падрыхтоўка тэхнічных кадраў для сельскае гаспадаркі" тав. Кесараў падае цэлы шэраг мерапрыемстваў па выразшэньню пытаньня аб кадрах для сельскае гаспадаркі. За адсутнасьцю месца падаваць гэтыя мерапрыемствы няма магчымасьці. Іх знойдзе чытач у рэцэнзуемым часопісе. Праблема сьвінагадоўлі і птушкаводзтва знайшла сабе некаторае тлумачэньне ў артыкулах агранома Жыркевіча і М. Канавальчыка. Да недахопаў у часопісе трэба аднесьці тое, што ў ім мала асьвятляецца тая клясавая барацьба, якую прыходзіцца весьці арганізаванай беднаце ў вёсцы. Мала асьвятляецца арганізацыя нацыянальных калгасаў, камун і праца ў іх. Не асьвятляецца роля культурных установ: школ, тэхнікумаў і інш. у справе калектывізацыі вёскі. Слаба асьвятляецца культмасавая праца ў калгасах.

Увогуле часопіс навучае, як на сацыялістычны лад перабудаваць сельскую гаспадарку, як рацыянальна скарыстоўваць сельска-гаспадарчыя машыны, весьці барацьбу са шкоднікамі гароду і поля, як выгадоўваць добрую жывёлу і інш.

Для сялян, калгасьнікаў, камунараў, вясковае беднаты і сераднякоў, часопіс „Шляхі калектывізацыі"—добрая настольная кніга.

**П. Скокаў.**

---

*Рэдактар—РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ*

*Выдавец—Каапцэнтры БССР, Белсельбанк і Ўсекабанк*